ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 29 (1784) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 22 ЛІПЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



**„Васілёк" сустракалі хлебам ды соллю. Фотарэпартаж з першага канцэрта беларускага калектыву са Злучаных Штатаў Амерыкі ў Мінску чытайце і глядзіце на стар. 6 і 7.**

# ПРЫХОД У БОЦЬКАХ

На 17 кіламетры дарогі з Бельска-Падляшскага ў Сямяцічы, над ракой Нурэц, распаложаны Боцькі. Гэта даволі вялікі пасёлак, які да 1932 года лічыўся горадам у Бельскай зямлі, а сёння з'яўляецца гмінным цэнтрам. У Боцьках два хрысціянскія прыходы: праваслаўны і рымска-каталіцкі.

На захад ад Боцькаў узвышаецца пагорак з усечаньй вяршыняй, дыяметр якой даходзіць да 50 метраў. Да нядаўна пагорак быў абведзены абаронным валам, а мясцовае насельніцтва называе яго „замкам". Археалагічныя даследаванні дазваляюць меркаваць, што ад канца VI ст. і пазней у XI ст. гэтую мясцовасць насялялі славяне.

Пісьмовыя крыніцы да XVI ст. не ўпамінаюць Боцькаў. Сама ж назва „Боцькі", праўдападобна, на працягу стагоддзяў змянялася. Паводле Міхала Кандрацюка, аўтара працы „Назвы ... Беласточчыны" гэта родавая назва, якая выводзіцца ад асабовай назвы *боцько, бацько*, ад рускага *ботько, батько*. На карце Сярэдняй Еўропы, якую апрацавалі ў Рыме ў 1553 г. Г. Лілі і М. Трамезіні, назва мясцовасці запісана „Botzki".

У „Супрасльскім памянніку" чыта-

**(Працяг на стар. 8)**




*Мемарыяльная пліта князю Івану Сямёнавічу Сапегу, якая знаходзіцца ў царкве ў Кодзені.*

# ДЗЕЦІ Чарнобыля

*3 ліпеня ў Беласток прыехала група 41 дзяцей з Брагінскага раёна Гомельскай вобласці, з мясцовасці Камарын, што знаходзіцца ўсяго дваццаць з нечым кіламетраў ад Чарнобыля... Дзеці прыехалі на месячны побыт, каб адпачыць, каб падыхаць свежым паветрам, каб хоць месяц пажыць там, дзе дні не пазначаны таўром радыеактыўнай смерці...*

*Уладкаваннем дзяцей у сем'ях заняліся дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання супольна са святарамі Праваслаўнай царквы. Дапамога беластоцкіх духоўных аказалася самай істотнай, паколькі БДА арганізацыйна пакуль што не падрыхтавана, каб поўнасцю забяспечыць матэрыяльна побыт „дзяцей Чарнобыля" на Беласточчыне... 10 дзяцей пражывае ў сем'ях у Гарадоцкай гміне, 20 — у сем'ях прыхаджан парафіі Усіх Святых у Беластоку, 11 — у парафіяльным доме ў Тапільцы.*

*Мы павінны дапамагчы... Мы не можам заплюшчваць вочы на тое, што сталася 26 красавіка 1986 года ў Чарнобылі, што зараз адбываецца ў шматлікіх раёнах Беларусі, на якія ўпаў атрутны чарнобыльскі пыл. Праўда пра Чарнобыль страшнейшая за ўсё самае страшнае, што можа прыдумаць і ўчыніць чалавек... Яе немагчыма асэнсаваць, яна перасягае нашы здольнасці асэнсоўваць жыццё ў катэгорыях чалавечай, хрысціянскай маралі... Праўда пра Чарнобыль па-за межамі зла...*

*Акцыю дапамогі дзецям з радыеактыўна забруджаных раёнаў Беларусі вядзе камітэт „Дзеці Чарнобыля", створаны па ініцыятыве Беларускага народнага фронту „Адраджэнне". Размову з каардынатарам камітэта Алесем Галькевічам прапануем нашым чытачам.*

* * *

*— Колькі людзей працуе ў камітэце „Дзеці Чарнобыля"?*

— Камітэт быў створаны ў маі 1989 года, ягоным старшынёй назначаны Генадзь Грушава. У камітэт уваходзіць каля 30 чалавек, але канкрэтнай працай, такой, напрыклад, як каардынацыя і арганізаванне паездкі дзяцей на канікулы па-за межы Беларусі, займаецца 6—7 асоб. Не ўсім дазваляе праца, „Дзеці Чарнобыля" — арганізацыя грамадская, ніякіх штатаў у нас няма, працуе ў ёй той, хто хоча і можа працаваць...

*— Які афіцыйны статус камітэта „Дзеці Чарнобыля"?*

— Ён не зарэгістраваны, таму не можа адкрыць свой рахунак у банку... Тут мы карыстаемся дапамогай Саюза кінематаграфістаў БССР, канкрэтна кажучы, даследча-інфармацыйнага цэнтра Саюза кінематаграфістаў, дырэктарам якога з'яўляецца Г. Грушавы. Паколькі ўлады адмаўляюць камітэту ў статусе юрыдычнай асобы, то пры Саюзе кінематаграфістаў мы знайшлі такую „афіцыйную шанку", пад якой магчыма мець адкрыты рахунак у банку...

*— Як праходзіць акцыя высылкі дзяцей на канікулы па-за межы рэспублікі?*

— Мы яе пачалі толькі ў канцы мая гэтага года, адправілі каля дзвюх з паловай тысяч дзяцей. Большасць з іх у Польшчу, у сем'і. Пэўную колькасць дзяцей прынялі ў Нямеччыне, у Чэхаславакіі і Нарвегіі. Самае складанае — адпраўка. Для нашых бальшавікоў няма праблем адправіць за адзін дзень 100 тысяч войска (скажам у Прагу або ў Кабул), а для некалькіх соцень дзяцей магчымасцяў у іх няма... Найменш клопатаў пры адпраўцы ў Польшчу, тут, проста, цягнікамі.. Камітэт шукае магчымасцяў ад-

**(Працяг на стар. 6)**




— 8 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Беручы пад увагу хуткую перспектыву аб'яднанай Германіі, з асаблівай заклапочанасцю думаю аб Польшчы. Давялося мне некалькі разоў сустрэцца з маладымі немцамі з ГДР і з Федэральнай Рэспублікі Германіі ў Мінску і ў Маскве. Немцы гэтыя з упэўненасцю і спакоем заяўлялі, што землі, якія адыйшлі ад Германіі і былі далучаны да Польшчы, „змянілі гаспадара сілаю". „Сілаю, — даказвалі яны, — з гэтых зямель палякі выкінулі больш як дзесяць мільёнаў карэнных на гэтых землях немцаў, і гэтыя мільёны немцаў, а таксама іх патомкі, раней ці пазней атрымаюць права вярнуцца ў сваю айчыну". На маё пытанне, ці паварот можа здзейсніцца толькі пры дапамозе сілы, гэта значыць вайны, немцы адказвалі, што знойдуцца іншыя, мірныя спосабы вырашэння гэтага пытання. Наслухаўся я многа аб злачынствах палякаў пры выгнанні немцаў з айчыны, а таксама аб тым, што занятыя Польшчай землі запушчаныя і значна ў эканамічным сэнсе адыйшлі назад у параўнанні з тым часам, калі гаспадарылі там немцы.

Прызнаюся, я не прыдаваў такім поглядам большага значэння. Здавалася мне, што краіны народнай дэмакратыі вечныя, што магутнасць і трываласць СССР бясспрэчная і што ніхто ў такой сітуацыі не дазволіць немцам мірным ці ваенным шляхам вярнуцца на польскія заходнія землі.

Прамінула аднак ад таго часу 10—12 гадоў і раптам аказалася, што няма лагера сацыялістычных краін, што, мабыць, канчаецца эра існавання СССР, яго ваеннай магутнасці, і што ў такой сітуацыі „прароцтвы" маладых немцаў не такія ўжо фантастычныя і недарэчлівыя, як мне здавалася некалькі гадоў таму назад.

З вялікім здзіўленнем даведаўся я, што нядаўна адбыўся круглы стол чэшскіх і нямецкіх гісторыкаў. Усе яны згодна заявілі аб тым, што выгнанне немцаў з Судэтаў было праявай чэшскага злачынства і што выгнаныя немцы — гэта ахвяры чэшскага нацыяналізму, і яны маюць права ўжо цяпер вярнуцца ў сваю айчыну. Слухаў я і не верыў сваім вушам. Тое, што дагэтуль лічылася натуральным, справядлівым і неабходным гістарычным актам, раптам сталася злачынным актам. Ці немцы, заахвочаныя такім вынікам у Чэхіі, не захочуць гэтага ж у адносінах да це скажа супраць чагосьці такога хаця б адно слова? Хіба што толькі шаленец.

Нядаўна даведаўся я ад шафёра ў Галоўным праўленні БГКТ, які толькі што скончыў вайсковую службу, што ўсе яго калегі, салдаты са Шлёнска, мелі нямецкія паперы. Паперы, якія даюць ім права выехаць у Заходнюю Германію. Ці зараз, калі Германіі аб'яднаюцца, гэты „мірны" націск на насельніцтва Шлёнска не павялічыцца радыкальна? Зрэшты, маем тут дачыненне з зусім новай сітуацыяй. Пакуль што немцы не імкнуцца да таго, каб сяліцца на нашых заходніх землях, але польскіх заходніх зямель? Цяпер я пачаў разумець, чаму немцы, яшчэ не аб'яднаўшыся, ужо адкрылі ўсе свае межы для чэхаў, але абсалютна не хочуць адкрыць іх для палякаў. Цікава, што маюць быць адкрыты спецыяльныя шляхі для тых чэхаў і немцаў, якія захочуць наведаць Германію і Чэхію на веласіпедах. Справа ў тым, каб веласіпедыстам не перашкаджалі ніякія матацыклы, машыны і трактары. Што ні гавары, а нешта такое не можа не падабацца. Проста сеў на веласіпед і паехаў у чужую краіну на піва або да дзяўчат! Хто ж на свевялікая колькасць мясцовага насельніцтва ірвецца ў Германію. З балючым здзіўленнем даведаўся я, што многія, вельмі многія ўнукі і праўнукі паланійных дзеячаў з гітлераўскіх часоў і ўдзельнікаў трох антынямецкіх паўстанняў ужо даўно пераехалі ў Заходнюю Германію. Сям-там падаюцца інфармацыі аб вельмі вялікіх ліках жыхароў Шлёнска, якія „запісваюцца ў немцы". Здаецца мне, што аб'яднаная Германія зробіць усё, каб яны падаліся ў немцы, але не перајазджалі ў Германію, а толькі заставаліся на Шлёнску. Што ні гавары, а добра мець сваіх людзей у чужой краіне! Заўсёды можна на іх разлічваць. Зрэшты, ужо нешта такое было ў гісторыі польска-нямецкіх адносін. Значыць, сапраўды, маладыя немцы, гаворачы аб мірных спосабах, мелі рацыю. Тое, што здавалася мне абсурдным і нерэальным, ужо здзяйсняецца сёння. І ўсё адбываецца згодна з правам, з ідэяй свабоды чалавека, між іншым, і ў выбары для сябе нацыянальнасці. Я гавару тут увесь час толькі ад свайго імя і нічога нікому не раю. Здаецца мне, што польскі ўрад, нягледзячы на прыгожую дэкларацыю двух нямецкіх парламентаў аб польска-нямецкай мяжы, не павінен спаць спакойна і не браць пад увагу ўсякія ндобрыя магчымасці ў будучыні. Я ўпэўнены, што міністр Скубішэўскі ўсё гэта разумее лепш, чым я.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

**Басовішча,** музычны фестываль маладой Беларусі, адбыўся ў Гарадку. На працягу трох дзён выступалі спевакі і рок-гурты з Беласточчыны і Беларусі (пра фестываль будзем пісаць у наступных нумарах).

**Лявон Тарасэвіч** (Лёнік) атрымаў узнагароду на XXII міжнародным фестывалі жывапісу ў французскім горадзе Кань-сюр-Мэр.

**Закон аб прыватызацыі** быў прыняты Сеймам на апошнім пасяджэнні. Гэты закон з'яўляецца структурным пераломам, які цалкавіта зменіць сістэму ўласнасці ў краіне.

**Сяляне бастуюць.** Сустрэчы прадстаўнікоў урада і сялянскай „Салідарнасці" на тэму сельскагаспадарчай палітыкі аказаліся безвыніковымі. З мэтай звярнуць увагу грамадства на праблемы вёскі вырашана было дзве гадзіны блакаваць дарогі па ўсёй краіне.

**Міхаіл Гарбачоў** быў выбраны дэлегатамі XXVII З'езда генеральным сакратаром КПСС. Выказаўся ён за аб'яднаную КПСС, супольную праграму і статут.

**Барыс Ельцын** абвясціў на З'ездзе КПСС аб сваім выхадзе з партыі, каб мець больш часу на выконванне сваіх абавязкаў старшыні Вярхоўнага Савета РСФСР. Падкрэсліў ён, што жадае паказаць сваю гатоўнасць працаваць з іншымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі. Пасля гэтага заяўлення Ельцын пакінуў залу пасяджэння З'езда.

**І сакратар пасольства СССР у Польшчы Аляксандр Оскін** размаўляў у Легніцы з пратэстуючымі супраць прабывання савецкіх войск у Польшчы. У выніку перагавораў два маладыя мужчыны спынілі пратэстацыйную галадоўку, якая вялася 50 дзён.

**На чыгуначнай станцыі ў Гайнаўцы** было заўважана, што з цыстэрнаў, якія ехалі з СССР у Торунь, выцякае небяспечная ўзрыўная субстанцыя. Пажарнікі сцвердзілі, што з чатырох апарожненых цыстэрнаў выпараваюцца рэшткі хлорасульфонавай кіслаты, якія ў спалучэнні з вадою могуць узрывацца. Прычынай гэтага былі недакручаныя шрубы ад накрывак. Такі сам выпадак здарыўся ўжо ў чэрвені. Ці неахайнасць і безадказнасць асоб, якія прымаюць вагоны на граніцы давядзе да трагедыі?

**У Сейнах стварылася Літоўскае таварыства імя св. Казіміра,** патрона Літвы. Арганізацыя дзейнічала ў міжваенны перыяд і цяпер яе ўзнавілі. Налічвае яна 300 чалавек і з'яўляецца другой (апрача ЛТСК) літоўскай арганізацыяй у Польшчы.

**Курс біяэнергатэрапіі** адбываецца ў Беластоку, а яго арганізатарам з'яўляецца кааператыў „Вспулчэсна" (дзейнічае пры рэдакцыі „Газеты Вспулчэснай"). Заняткі вядзе Эмма Якушава з Алма-Аты.

# ГРАБАРКА — СУМ І БОЛЬ

**Грабарка — самы вялікі праваслаўны паломніцкі цэнтр у Польшчы, вядомы далёка па-за межамі нашай краіны. Можна тут сустрэць паломнікаў розных веравызнанняў з усяго свету. Асабліва мнагалюдна на св. Гары ў дзень Праабражэння Гасподняга (19 жніўня), калі дзесяткі тысяч паломнікаў наведваюць святое для праваслаўя месца.**

**Паломнікі маліліся ў храме Праабражэння Гасподняга, драўлянай царкве, пабудаванай у II палавіне XIX стагоддзя. Была яна перавезена з Мельніка і пастаўлена на месцы старой капліцы з XVIII стагоддзя. Царква, якой апякуюцца манашкі з манастыра св. св. Марфы і Марыі, абведзена незлічонай колькасцю пакутных крыжоў, прынесеных тут вернікамі.**

**І вось Праабражэнскага храма няма. Раніцай у пятніцу, 13 ліпеня, усю Беласточчыну абабегла жахлівая вестка, перададзеная па Беластоцкім радыё: згарэла царква на Грабарцы. І адразу стала ясна, што гэта не нешчаслівае здарэнне, але чарговае мэтанакіраванае дзеянне. За апошнія гады на Беласточчыне згарэла пяць драўляных старадаўніх цэркваў. Храм на Грабаўцы быў шостым. На працягу апошніх дзесяці гадоў быў ён тройчы абкрадзены. А цяпер яго спалілі.**

**Царква загарэлася каля поўначы ў чацвер, 12 ліпеня, у дзень св. св. Пятра і Паўла (дарэчы, царква ў Нарве згарэла таксама ў чацвер, 12 красавіка г.г.). Пажар заўважылі жыхары Шумілаўкі, вёскі, раскінутай ля падножжа св. Гары. Яны паднялі трывогу, паведамілі пажарнікаў у Сямяцічах, разбудзілі манашак. Царква гарэла, як свяча.**

**На папялішчы кожны дзень знаходзяцца сотні вернікаў. Пехатою прыходзяць жыхары непадалёкіх вёсак, прыязджаюць людзі з далёкіх мясцовасцяў і гарадоў. Многія жанчыны апранутыя ў чорнае, па-жалобнаму. На сходах да прытвора (там, праўдападобна, быў падкладзены агонь) людзі ўскладаюць букеты свежых кветак. Сум на тварах, слёзы ў вачах.**

**Набліжаецца Спас, свята Праабражэння Гасподняга. У гэтым годзе будзе яно іншае, перапоўненае смуткам і жалем. Паломнікі гэтым разам будуць маліцца пад адкрытым небам, на папялішчы.**

**Царква Праабражэння Гасподняга будзе поўнасцю рэканструявана. Мітрапаліт Васілій благаславіў гэтую ідэю. Цяжар адбудовы будуць несці манашкі. Патрэбна ім у гэтым дапамога, ахвярнасць вернікаў і ўсіх людзей добрай волі. Спадзяемся, што многія нашы чытачы ўключацца ў справу адбудовы царквы на Грабарцы.**

**Грашовыя ахвяраванні можна дасылаць на адрас Жаночага манастыра св. св. Марфы і Марыі ў Грабарцы. Уплаты ў злотых трэба пералічваць на рахунак: Narodowy Bank Polski, Oddział Siemiatycze, nr 5122-37051-136, а ў замежнай валюце — на рахунак: PKO, O/O Siemiatycze, nr 038436-152-001787.**

**Рэпартаж з месца пажару надрукуем у адным з найбліжэйшых нумароў.** (л)

# ХАЛТУРА НА БЕЛАРУСКІЯ ТЭМЫ

Расчараваў мяне і нават разззлаваў Тэлесфар Пазьняк як аўтар раздзела пра беларускую літаратуру ў шматтомным выданні „Dzieje literatur europejskich“, што выходзіць пад рэдакцыяй Уладзіслава Фларыяна. Ужо ва ўступным слове Пазьняк бескрытычна паўтарыў царска-савецкія глупствы пра г.зв. Старажытнарускую Дзяржаву, без распаду якой, трэба думаць, не вылупіліся б на свет Божы тыя ўсходнеславянскія народы, а напэўна беларусы. Гэта проста абражае наш нацыянальны гонар! Вядома не ад сённяшняй раніцы, а прынамсі ад пачатку веку, што старажытнаруская народнасць — гэта пазнейшая імперская выдумка; развіццё ўсходняй Славяншчыны вiравала вакол трох цэнтраў — Ноўгарада, Кіева, Полацка, — прапачаткаў Расіі, Украіны, Беларусі. І як Баляслаў Хробры бегаў па заходняй Славяншчыне, напрыклад, вырэзваючы Прагу, дабраўшыся і да Кіева тадышняга, так і па мнагалікіх Русях гойсалі мацнейшыя (бандытаваты Уладзімір, пазнейшы хрысціцель Кіеўскай Русі). Полацкая Зямля ад свайго гістарычнага пачатку была незалежнай, першы раз страціўшы суверэнітэт ад Уладзіміравай агрэсіі і аднавіўшы яго ў княжанне вялікага Чарадзея, паслужыўшы пасля добра фармаванню магутнага Вялікага княства Літоўскага — гэтага апагею беларускай дзяржаўнасці. Кіеў зруйнавалі манголы не такімі вельмі і вялікімі сіламі, што стала магчымым дзякуючы абыякавасці да ягонага лёсу з боку Ноўгарада і Аляксандра Неўскага. І Полацк не рушыўся, а мог бы, калі б сапраўды існавала тая Старажытнаруская Дзяржава. Бяда Кіева была бядою суседа, якога, потым, наша Літва пры Альгердзе далучыла да сябе, а Польскае Каралеўства адабрала ў Люблінскую унію 1569 г.

Адкуль узяў Тэлесфар Пазьняк тое, што Ягайла, стаўшы каралём, уключыў Вялікае княства Літоўскае ў Польскае Каралеўства? Элементарная, звычайная няпраўда! Яму нельга не ведаць і таго, што яшчэ пасля Люблінскай уніі, якая ўхваліла ўтварэнне саюзнай дзяржавы — Рэчыпаспалітай Абодвух Народаў, наша Літва захавала за сабою асобны ўрад, армію, фінансы (манету), значныя прэрагатывы на замежную палітыку, не кажучы пра вострыя абмежаванні ў кар'еры наездных палякаў. Ён не чуў чамусьці і аб тым, што ўзнікненне гістарычнай Літвы нельга вязаць з продкамі сучасных літоўцаў, якіх, нярэдка крывава, заваявалі нашы прашчуры ад наваградскага ды полацкага напрамкаў фармавання гэтай старажытнабеларускай дзяржавы (самое слова „літва“ незразумелае і чужое ў літоўскай лексіцы). Гэта не парадоксы, але няведанне гісторыі.

„Белую Русь“ знаходзім у лацінскіх крыніцах аж з трынаццатага стагоддзя (Alba Rossica). Яе ўжыванне пашыралася ад Полаччыны паступова, трохі як у выпадку Украіны, якая ў часы Кіеўскай Русі адносілася да часткі прычарнаморскіх стэпаў, каланізаваных славянамі.

Недаравальна абмінуў маўчаннем прафесар апавяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў пачатку 1918 г., без існавання якой бальшавікі не дадумаліся б арганізаваць Савецкую Рэспубліку Беларусі (зрэшты, праз некалькі тыдняў беспардонна ліквідаваную імі, калі адпала ў іх палітычная патрэба ў ёй).

Кідаецца ў вочы, што Тэлесфар Пазьняк не засвоіў найноўшых даследаванняў беларускай палітыкі і культуры. Паперапісваў неактуальныя тэзы, хаця б пра тое, што Гедымін хадзіў з агрэсіяй на беларускія землі. Або тое, што ў 1697 годзе нібы забаранілі адвечную мову Вялікага княства Літоўскага... Чагосьці такога не было. Гэта чарговая фальсіфікацыя, перакanaўча даказаная яшчэ ў трыццатыя гады, вельмі выгадная, аднак, вялікарасійскім ды вялікапольскім камбінатарам у чавуцы.

Даводзяць да белай гарачкі безадказна спісаныя ім ад мінскіх жулікаў па літаратуразнаўстве фразы наконт ідэйнага крызісу (чытай: перавыхоўвання) Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі ці экспазіцыі твораў накшталт „Над ракою Арэсай“ (выціснутых з Купалы энкавэдзістамі беларускай літаратуры). І ні слоўка пра трагедыю нашай культуры, творцы якой — амаль да апошняга! — былі загнаны ў снягі Сібіры на пакутную смерць, чаго не асмеліўся ўчыніць для Беларусі сам цар усерасійскі!

Меркай нядбайнасці, з якой была складзена гэтая энцыклапедычная апрацоўка, з'яўляецца адсутнасць у ёй вялікага Максіма Гарэцкага (гэта ж так, як з гісторыі польскай літаратуры выкрасліць, скажам, Стэфана Жаромскага!). Меней кідкіх хібаў — цэлая процьма: карэктарскія недагляды ў напісанні прозвішчаў, імёнаў, датаў (Тарашкевіч не памёр у сорак першым, яго закатавалі і, як вар'ята, застрэлілі 29 лістапада 1938 г. у мінскай „амерыканцы“, аб чым нарэшце ведае і „Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі“; т. 5, стар. 246).

Праца Тэлесфара Пазьняка нагадвае мне халтурніцкую кніжку Марцэля Космана „Гісторыя Беларусі“, выдадзеную, бы на іронію, паважаным польскім „Асалінэумам“. Тая ж павярхоўшчына і поўны брак. Беларуская літаратура не парафіяльная, каб яе так трактаваць. Трэба браць прыклад з англійскага даследчыка Арнольда Макміліна, які ўсю яе сам прачытаў ды перадумаў. Салідна, без ліпы!

**Сакрат Яновіч**

# Семінар „Белавежы“

1 ліпеня адбыўся семінар Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. За апошні час новае праўленне „Белавежы“ (старшыня Ян Чыквін) правяло некалькі спробаў рэанімацыі беларускага літаратурнага жыцця ў Польшчы. Семінар 1 ліпеня, нягледзячы на сціплую колькасць удзельнікаў, трэба расцэньваць як самую ўдалую і абнадзейваючую спробу.

У першай частцы семінара з дакладам „Чаму варта чытаць „Уліса“ Дж. Джойса?“ выступіў Ян Максімюк. Дакладчык агульна ахарактарызаваў структуру твора, звярнуў увагу на моўныя і стылістычныя асаблівасці рамана, вылучыў наватарскія моманты ў ім. Пад канец дакладчык некалькі слоў прысвяціў свайму перакладу твора на беларускую мову, працу над якім ён зараз заканчвае.

Ян Чыквін паінфармаваў аб намерах і мерапрыемствах праўлення стымуляваць літаратурнае беларускае жыццё і выдавецкую дзейнасць „Белавежы“. Праўленне ўвайшло ў лучнасць з амерыканскім асяроддзем нашых суродзічаў, якое задэкларавала фінансавую дапамогу ў выданні літаратурнага альманаха маладых. Укладальнікам альманаха з'яўляецца Віктар Швед, які на семінары прадставіў склад аўтараў альманаха і яго змест. Удзельнікі семінара высока ацанілі зробленае В. Шведам і пастанавілі, што ў канчатковым рэдагаванні зборніка ўкладальніку дапамогуць сябры „Белавежы“ Г. Валкавыцкі і Я. Жамойцін.

Закончылася праца над падрыхтоўкай дакументаў дзеля рэгістрацыі „Белавежы“ як самастойнага згуртавання, якое будзе карыстацца правам юрыдычнай асобы. З гэтым непасрэдна звязана справа фінансавай дапамогі аб'яднанню з боку Міністэрства культуры і мастацтва. Такую дапамогу, у выглядзе канкрэтнай сумы залатовак, „Белавежы“ паабяцалі. Сябры „Белавежы“ упаўнаважылі Я. Чыквіна, В. Шведа і Я. Максімюка правесці рэгістрацыю аб'яднання. Уступна быў абмеркаваны выдавецкі план „Белавежы“ на гэты год. „Белавежцы“ пагадзіліся, што ў першую чаргу трэба будзе заняцца выданнем індывідуальных паэтычных зборнікаў Ю. Баены, Дз. Шатыловіча і В. Шведа.

(аб)

## ПОГЛЯДЫ

### ЦІ МОЖА БЕЛАРУСЬ ІСНАВАЦЬ САМАСТОЙНА?

*— Прыклад Літвы прадэманстраваў усю складанасць кроку выхаду са складу СССР, выявіў усю павязанасць рэспубліканскай эканомікі з цэнтральнай. Тым часам Літва ўсё ж разлічвала і разлічвае на пэўныя свае традыцыі, ну, скажам, з Захадам. Вы гаворыце, што ў выніку Чарнобыля людзі зразумелі, што мы для Масквы — калёнія. І ўсё ж, ці можа, на вашу думку, Беларусь існаваць самастойна?*

— Мяне нават здзіўляе, што можна задаваць такое пытанне такому народу, які мае тысячагадовую гісторыю, традыцыі дзяржаўнага існавання, дакументы, мастацтва. Гэта, відаць, вынік той прапаганды, якая вялася супроць нашага народа, і такім чынам стваралася такое ўражанне, і ў яго, і ў іншых, што быццам бы немагчыма існаваць без Масквы. Але гэтыя байкі ўжо даўно скончыліся, і хай на сённяшні дзень Масква задумаецца, ці зможа яна існаваць сама па сабе, таму што тое грамадства, якое прыгнятае іншыя народы, іншыя грамадствы, само выраджаецца. І вось тут праблема для Масквы не меншая, чым для нас, а можа быць і большая. Так што ніякага сумнення ў гэтым быць не можа. Больш таго, у нас становішча больш лёгкае і больш простае, чым у Літвы. Нам ніадкуль не трэба выходзіць. Мы маем юрыдычна поўны суверэнітэт, як член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Але на самай справе мы яго не маем. І справа тычыцца толькі таго, каб зрабіць яго рэальным палітычнымі сродкамі. І я думаю, калі Масква паспрабуе ўжыць супроць нас такія формы націску, як супроць Літвы, то міжнародная супольнасць, спасылаючыся на ўсе існуючыя законы, нас абароніць. Іншая справа, што ёсць адна прычына, якая ўскладняе ўвесь працэс. І гэтая прычына, перш за ўсё, — невысокі палітычны ўзровень нашага насельніцтва і невысокая нацыянальная свядомасць. Гэта вынік мэтанакіраванай імперскай палітыкі Масквы. Мы зараз пажынаем гэтыя плады, калі знішчалі лепшых, калі зразалі нашу моладзь, інтэлігенцыю, хлусілі пра нашу гісторыю, закрывалі нашыя школы і гэтак далей. Такім чынам, мы перажываем цяпер не толькі Чарнобыль радыяцыйны, але і Чарнобыль духоўны, Чарнобыль культурны. І толькі гэта асноўная перашкода на шляху да дзяржаўнага суверэнітэту. Але гэта пытанне часу, гэта пытанне народнага выхавання. І гэтая самая прычына, якая з'яўляецца перашкодай, з'яўляецца адначасна і стымулам. Таму я мяркую, што пытанне нашай незалежнасці — гэта пытанне часу. Акрамя таго, яно звязана не толькі з нашымі ўнутранымі працэсамі, але і з тымі дэмакратычнымі працэсамі, якія ідуць вакол нас і ва ўсім свеце. Яно звязана з крахам камунізму.

**Зянон Пазьняк**

(З інтэрв'ю для радыёстанцыі „Свабода“)

## Свойскія малюнкі



Тыкоцін. Мал. У. Петрука.

Рэдка бралі замуж хлопцы з нашае вёскі дзяўчат з Залесу. Часам ездзілі за трыццаць вёрст у сваты, каб не браць дзевак згэтуль. Нават калі якая прыгледзелася, бацькі не дазвалялі. Так расказвала маёй бабулі яе бабка Тэкля. Гаварылі, што ў гэтай пушчанскай вёсцы Залес людзі маюць вельмі памешаную кроў з лясньмі людзьмі, якія, як малпы, па дрэвах лазілі, мёдам і караедамі ўсялякімі харчаваліся, карэньчыкамі і зеллем. Усякую нечысць елі — вужакаў усялякіх і саранчу, ваўком, гавораць, нават не грэбавалі. Валоў ды кароў не мелі, зямлі не аралі, на від чалавека кідаліся ў гушчар або, калі каламі або рагацінамі іх прыперлі, біліся да смерці. Людзі гаварылі, што дзікуноў гэтых выбілі з тысячу гадоў назад. Але не ўсіх: то якую дзеўку прыдушыў наш чалавек дзе ў нетры, што ягады збірала; то злавілі якую цікаўную, што падкралася да вёскі, а калі ўсе малойчыкі ёю нацешыліся (кусалася, як воўк!), выпускалі ў лес яшчэ больш здзічэлую...

Ужо сто гадоў таму назад, а можа і сто пяцьдзесят, у Залесе жылі ўжо людзі, як усе. Гаварылі па-нашаму, апраналіся ў кужаль і лапці, трымалі свіней ды кароў. Свінні не такія, як цяпер, былі — даўганогія, худазадыя, вёрткія — гадавалі ж іх не на бульбе, а на пушчанскіх пладах.

Нашы хлопцы часам бралі іх дзевак. Але якія з іх гаспадыні? Больш прывыклыя па лесе бегаць, чым за кроснамі сядзець;

## Сакрат Яновіч
# Жыве Беларусь!

— 4 —

Мая размова з Зянонам Пазьняком — гэта мара пра нармальную Беларускую Дзяржаву. Пра такую, у якой беларускасць і чуццё бацькаўшчыны былі б вышэй за ўсё, як гэта ўсюды ў культурным свеце. Бо без гэтага Беларусі не ўбачыць будучыні і жыць палігонным жыццём пад каманду кагосьці. І нам, у Беластоцкім краі, гэтак жа прападаць! Па законе зваротных сувязяў. Трэба кантактаў з Рэспублікай, перш за ўсё гаспадарчых, за якімі пойдуць і псіхалагічныя. Для прыкладу, наша Гарадоцкая гміна задыхаецца ад беднасці, ад эканамічнага бязвыйсця цяпер. А можа яна стацца нялішнім партнёрам, экспартаваць эшалоны сельскіх прадуктаў, не атручаных навек нуклеарнай хмарай ад Чарнобыля. Запэўніць паток прэфабрыкатаў з дрэва са сваёй пушчы, у якой узровень радыяцыі занадта не перавысіў навуковую норму, і зробленая мэбля або напілаваныя бэлькі не зззяюць злашчасным выпраменьваннем. І кафляў поўныя склады, і цэглы, чаго са свечкай шукаць ад Ваўкавыска да Віцебска... Няма бяды і з камунікацыяй да савецкага кардону ў Баброўніках на Свіслачы: пралягае шасэйная магістраль, на якой даволі падняць угору рагатку, і чыгунка, па якой ідуць таварнякі на Берлін, грукочучы экспрэсамі праз станцыю Валілы, тартачнае прадмесце менавіта Гарадка. Чаго яшчэ не хапае, каб пачаць удалы гешэфт і справу? Толькі добрай волі з боку афіцыйнага Мінска, бо варшаўскіх перашкодаў у новай юрыдычна-прававой сітуацыі ў Рэчыпаспалітай Польскай не відаць.

На плошчы перад Домам Урада нясціханая дэманстрацыя пад бела-чырвона-белымі сцягамі, ад рання да ночы і штодзень. Імперскае мяшчанства як бы не заўважае яе. Знаёмы тлумачыць: дагэтуль было горай, знаходзіліся малойчыкі з дубінкамі супроць патрыётаў, але нядаўні мітынг у дзесяткі тысячаў чалавек у падтрымку беларускай апазіцыі выразна астудзіў нават міліцыю з аўчаркамі ды газавымі гранатамі. Перасталі караць высокімі штрафамі і за нацыянальныя значкі на грудзях, як і за спяванне „Пагоні".

Маланкавы распад камуністычнай сістэмы ашаламіў усіх, яе ворагаў і яе наменклатурных нахлебнікаў. Загубіў жа яе не дзяржаўны тэрарызм і рэцыдыў варварства, але... усё таннейшая скібка хлеба і ўсё карацейшая кілбаса. Капіталізм, напалоханы камунізмам, здолеў мадыфікавацца, падперайначыцца і пашырыць дабрабыт па-за класічную буржуазію. Апошняя інстанцыя, ухваляючая або адкідаючая актуальную ідэалогію, гэта жывот, стол. І не столькі вачыма, колькі сваімі мазалямі працавіты беларусец бачыць, што, як ты тут ні рабі-зарабіся, усё роўна кішкі марш іграюць. У гэтым і галоўная таямніца рапгоўнай пашаны да маладых заклікаў да суверэнітэту ды незалежнасці; Савецкі Саюз як канцэпцыя лепшага свету маральна пастарэў і ўсяляк вычарпаўся.

Як быць далей Беларусі? — дыскутуюць у „Адраджэньні". Вельмі цэнны саюз з вялізным суседам засмокча з нагамі. Выйсце падказвае сама гісторыя, так сказаць, шлях „з варагаў у грэкі", натуральнае імкненне беларускага арэалу да Балтыкі, ужо ад Рагвалодавай Зямлі Полацкай пачынаючы (Украіна павернута тварам заўсёды да Вялікага стэпу і Чорнага мора, і яе інтарэсы канчаюцца на палескіх балотах).

А з Польшчай мы даўно насаюзнічаліся, таксама з вядомым вынікам.



## Час адраджэння

*„Мы з'яўляемся часткай народа Беларусі, пражываем на спрадвечнай зямлі нашых бацькоў і заклікаем усіх палякаў рэспублікі адмовіцца ад усялякай рэпатрыяцыі і пакідання роднага краю.*

*Разам з гэтым просім праявіць больш актыўнае ўзаемадзеянне з Саюзам (палякаў Беларусі — рэд.) у мэтах самага хуткага адраджэння нашай нацыянальнасці, нашай мовы і культуры. (...)*

*Заклікаем палякаў памагаць таксама і нашым братам-беларусам у адраджэнні іх роднай мовы, культуры, бо нашыя народы ў гэтым напаткалі падобныя беды."*

*Са звароту дэлегатаў I з'езда палякаў Беларусі („Гродненская правда" № 117 ад 21 чэрвеня 1990 г.)*

# Радзіму носім у сэрцы

Ёсць у амерыканскім Чыкага куточак, які прыцягвае да сябе кожнага, хто з далёкай Беласточчыны трапіць у гэты заакіянскі край.

Беластоцкая парафія — так называюць гэты куточак нашы землякі. А самі жыхары цешацца, калі да іх прыязджаюць госці з далёкай Радзімы і наведваюць іх беластоцкую беларускую праваслаўную царкву.

Гады два назад на прыход гэтай царквы прыйшоў новы настаяцель, айцец Канстанцін Бандарук, таксама беластаччанін. Вельмі ж спадабаўся парафіянам новы бацюшка, такі сардэчны да людзей і вельмі ж свойскі. І яго прыбыццё спрыяла згуртаванню парафіян-беларусаў, а на кожнае большае свята з'язджаюцца сюды беластачане і беларусы нават з далёкіх ваколіц, сюды, дзе пануе атмасфера Радзімы, дзе ў царкве гучыць беларуская мова, а абеды ў час святаў зусім як у бацькоўскіх хатах на Беласточчыне. Ці ж не варта ехаць у Чыкага хоць сотні кіламетраў, каб у гасціннай беларускай царкве святога Юрыя паслухаць пропаведзь на роднай мове, а потым трапіць на свойскі абед з пахам капусных галубцоў, вясковых нашых катлетаў з часначком ці апетытна запечанай кішкі, напханай дзертай бульбай? На святы збіраюцца тут сотні людзей, хоць сама парафія невялічкая — 35 сем'яў. Але не ў колькасці сіла, як у нас кажуць. Дружная сямейка ўмее зрабіць многа, калі толькі ёсць у людзей ахвота, калі бачаць яны свой сэнс жыцця ў роднай супольнасці, у культываванні сваіх нацыянальных традыцый.

Ёсць у гэтай чыкагскай беларускай царкве, напрыклад, памяшканне, дзе збіраецца моладзь, якая любіць паспяваць разам, патанцаваць, пасядзець, падыскутаваць. Тады ўключаюць людзі музыку, весяляцца.

Асабліва сардэчныя вечары былі тут, калі жыў у Чыкага Юрка Мазурук, цудоўны гітарыст, спявак, душа слухачоў.

хутчэй такая зайца за вушы зловіць, чым масла саб'е! Суханогія, прастаплечыя, на полі ламаліся, як сарваныя кветкі. Не накрычыш на такую, не стукнеш добра, бо быццам бы баіцца, хавае галаву перад тваім кулаком, а вочы, як у рысі, свецяцца: толькі глядзі, як з пазурамі кінецца...! Чыстыя бабы, апратныя, дзяцей добра няньчылі, зеллем умелі палячыць і чалавека, і жывёлу. Была такая ў нашай вёсцы пры памяці бабулінай бабкі. Ганнай яе звалі. Муж яе, Андрэй Капцюх, з рук бацькоў ледзь дзяўчыну вырваў, на руках насіў, песні спяваў. Пярун яго забіў. А Ганна сама парадзіла з гаспадаркай, і людзям дапамагала. А калі




прыйшлося ёй памерці, убілі ёй кол асінавы ў грудзі, усёю вёскаю. Ці яна калі каго пакрыўдзіла, ці чыёй карове малако адняла? Нічога такога не было. Кожны да яе хадзіў у хваробе і іншай бядзе. Дачушка Ганны, 12-гадовая Ксенька, уцякла тады ў лес і нідзе яе не знайшлі. Не было яе ні ў дзядоў у Залесе, ні ў іншай вёсцы. Можа, звяры яе разарвалі, а, можа, дзе яшчэ жылі лясныя людзі?

Сёння ў Залесе мала хатаў стаіць. Цяпер толькі Шэшкаў чацвёра, адзін стары Тумель, Алік Прус прывёз жонку з Беластока маладую: думае будавацца — толькі ён тут адзін малады; бабуля Балтуціха дажывае веку... Міцалёў двое дзяцей ходзіць у школу. Пурты ўсе перабраліся ў горад — кватэры ў блоках дасталі. Савулі прадалі драўляную, яшчэ нестарую хату і лесу добры кавалак, а самі купілі пляц у Гайнаўцы. Дыкерты і Кястанісы яшчэ ў шасцідзесятыя гады выехалі, толькі Колік Кястаніс часам прыедзе, па пушчы паходзіць. За вёскай стаіць амаль урослая ў зямлю хата Керкеляў, а каля яе з правага боку — пакінутая клуня Эйсмантаў, добрая яшчэ, з цементавымі слупамі, але ніхто на яе не паквапіўся. Думалі вяртацца Эдзік Доўс і Андрэй Друць, але раней маглі б узяць які крэдыт, каб будаваць нешта, а цяпер гэта ўжо немагчыма. Юрык Кішкель ужо ўзяў быў крэдыт у банку, думаў па-сучаснаму: лес — гэта багацце, трэба толькі паставіць тут які домік, і мяшчане прыедуць адпачываць, а грошыкі пакоцяцца яму ў кішэнь. Але цяпер гэтых грошай не хапае нават на добры падмурак. Юрык разам з Андрэем Лукшам планавалі зрабіць з Залесу цэлую адпачынковую вёску. Але пакуль што толькі зямля тут адпачывае. Калі б хоць дзеўкі былі ў якой-небудзь вёсцы, нават у Залесе, то не шукалі б Вася Грытолец, Генік Міруць ці Сенік Нарвойш шчасця, пішучы ў „Пазнаёмімся“ ці пад „Міртовую галінку“. Выйшлі ўжо з узросту, калі гойсаць можна па забавах. Якая дзяўчына пойдзе цяпер жыць у лес? Не адпачываць, а жыць, працаваць, прадаўжаць род „пушчанскіх людзей“?

Ёсць яшчэ ў пушчы такія месцы, дзе лес расце сапраўды пасвойму. Жыве, памірае, жыве... Тут на струнах святла ад кронаў, на павуцінні між галінкамі павіслі галасы тых, хто тут раней жыў. Толькі трэба прыслухацца.

**Міра Лукша**

# НАРАЎКА — рака ці сцёк?

Усе бачаць, што вада ў рацэ Нараўка, якая пераплывае праз Белавежу, брудная. Усё-такі ахвотныя купацца ў ёй знаходзяцца. Перасцярогай ім няхай будуць вынікі кантролю чысціні вады, які правёў Цэнтр даследавання і кантролю асяроддзя ў Беластоку. Пробы былі браны ў чатырох месцах. Выявілася, што найменш брудны адрэзак ракі пры вул. Мастовай (II клас чысціні), горш ужо на адрэзках пры вул. Таваровай і пры шлюзе (III клас чысціні), а найгорш пры вул. Паркавай. Тут вада па-за нормамі чысціні, хаця якраз у гэтым месцы купаюцца найчасцей.

Зараз у Белавежы будуецца ачышчальня сцёкаў. Яна напэўна палепшыць чысціню Нараўкі. Шкада толькі, што праца пры будове штосьці зацягваецца. Трагедыяй для людзей і прыроды было б, калі б гэтая інвестыцыя спынілася. Ва ўмовах самафінансавання гмінаў такая пагроза зусім рэальная.

Тэкст і чота **Пятра Байко**



*Рака Нараўка — адрэзак пры вул. Таваровай; выпраставанае ў шасцідзесятых гадах рэчышча выдатна панізіла ступень самаачышчальнасці вады.*



Цяпер ён выехаў у Канаду, але яго беларускія сябры з Чыкага ўдзячны яму і сёння за праведзеныя разам хвіліны. Спявае тут на радасць старэйшым людзям і 12-гадовая Ніка, дачка бацюшкі Бандарука. Не так даўно яна была лаўрэаткай конкурсу беларускай песні сярод маладзейшых дзяцей у Беластоку. Цяпер яе песні (а рэпертуар пашыраецца з узростам) цешаць чыкагскіх беларусаў.

Вакол царквы збіраюцца людзі, якія раней, на радзіме, не надта квапіліся бываць у царкве. Тут, так далёка ад дома, царква зрабілася для ўсіх беларусаў кавалачкам айчыны, успамінам бацькоўскага дому. Разам праводзяць усе жыхары парафіі супольныя святы. Вялікім застоллем, згодна з нашымі традыцыямі, адзначаюць Каляды, Вялікдзень, Юрыя — свята сваёй царквы і шмат іншых. 25 сакавіка супольна і ўрачыста адсвяткавалі гадавіну ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе. Часта чыкагскіх беларусаў наведваюць госці. Новы год сустракала з імі Ала Орса-Рамана — беларуская дзяячка з Нью-Йорка, з Канады гасціў тут Алекс Палескі. 3 верасня адбудзецца ў Кліўлендзе з'езд беларусаў. Збіраюцца ехаць на яго і прадстаўнікі беларусаў з Чыкага.

Жанчыны гэтай парафіі гуртуюцца ў сястрычастве. Старшынёй яго выбралі Марыю Каленік, вельмі актыўную беларуску. Сястрычаства збірае грошы (не толькі даткі, але і старацца рознымі спосабамі зарабіць) на пабудову новай царквы. Наогул усе парафіяне ахвотна ўносяць свой уклад і на дапамогу беларусам у Польшчы. Вось нядаўна на радзіме пабывалі Валянціна і Уладзімір Яканюкі. Яны прывезлі ад сябе і сваіх сяброў грошы на пабудову царквы ў Беластоку, далі таксама грашовую падмогу Беларускаму аб'яднанню студэнтаў — на падтрымку дзейнасці маладых беларусаў, як сказаў Уладзімір Яканюк. Дапамаглі чыкагскія беларусы і тады, калі амерыканскія беларусы збіралі грошы, каб купіць інструменты для нашага калектыву „Дубіны“.

Вядома, што ў розных зборах грошай найбольш могуць дапамагчы тыя, што маюць з чаго даваць. Адным з такіх сярод чыкагскіх беларусаў з'яўляецца Аляксандр Шышка, выхадзец з Кашалёў. У яго ў Чыкага ўжо свая немалая фабрыка, дзе заўсёды знойдзе працу зямляк-беларус. Гэта з яго дапамогай удалося напрадукаваць кашулькі з надрукам Пагоні, якія потым прадавалі, каб грошы прызначыць на пабудову царквы. Здараецца, што на сваю царкву запісваюць грошы старэйшыя людзі як частку спадчыны па сабе. Так вось пакінуў запісам па сабе 8 тысяч долараў на пабудову сваёй парафіяльнай царквы Іван Багдановіч, а 2 тысячы ён прызначыў на царкву ў Беластоку. Актывістам збору грошай на пабудову царквы ў Беластоку на Антонюку з'яўляецца Яўген Макарэвіч.

Валянціна Яканюк і Тамара Бандарук, калі наведалі нашу рэдакцыю, расказваючы аб грамадскай дзейнасці ў сваім асяроддзі, паслужыліся прыкладам як можна знайсці ў Амерыцы грошы на вялікія пабудовы, згадалі, як была пабудавана вялікая прыгожая праваслаўная царква ў недалёкім ад іх Саўт-Рывэры, дзе вельмі ўрачыста адзначалася 1000-годдзе Хрышчэння Русі. Дык вось, як кажа Валя, каб сабраць грошы на пабудову гэтай царквы, парафіяне 25 гадоў варылі і прадавалі ў Чыкага піражкі. Нейкі падобны „бізнес“ думаюць раскруціць і яны. У іх раёне працуе і польскі рэстаран, дзе можна, калі не хапае часу, на парафіяльную ўрачыстасць заказаць і польскія прысмакі — капытка ці бігас.

Наогул, мясцовым амерыканцам наша беластоцкая беларуская кухня вельмі даспадобы. Неяк Валя Яканюк, наварыўшы каструлю галубцоў па-канюкоўску, прыцягнула яго на працу. Сябры частаваліся з вялікім энтузіязмам, не маглі нахваліцца. Відаць, амерыканцы любяць не толькі свае, моцна уніфікаваныя стравы, выпрацкаваныя на фабрыках.

Такіх беларускіх парафій, як чыкагская, ёсць у вялікім свеце нямала. Маем надзею, што да многіх трапляе і наша „Ніва“. Радасна нам было б, калі б сабе, аб сваім беларускім жыцці далёка ад Радзімы, захацелі расказаць і іншыя.

Пішыце да нас. Рады будзем кожнай вестачцы аб далёкіх земляках, аб тых, хто памятае, адкуль ён родам, памятае аб сваіх каранях.

А чыкагскім беларусам дзякуем, што не забываюцца аб нас, што бываюць у нашым Беластоку і ў нашай рэдакцыі.

**Яніна Чэрнякевіч**

# ДЗЕЦІ Чарнобыля

(Працяг са стар. 1)

праўкі дзяцей на Захад праз Польшчу...

— *Колькі часу дзеці прабываюць на канікулах за мяжою?*

— Мы лічым, што патрэбна не менш месяца, каб арганізм мог вывесці радыеактыўныя рэчывы ў такой колькасці, калі сапраўды можна адчуць паляпшэнне здароўя, а прынамсі — самаадчування... Таму на карацейшы побыт, чым на месяц, не высылаем.

— *А ці мае камітэт „Дзеці Чарнобыля“ нейкую дапамогу з боку ўладаў, урада?*

— Можна сказаць так: цяпер нам не робяць клопату ў Міністэрстве замежных спраў з афармленнем выязных дакументаў, афармляюць даволі хутка... І чыгуначнікі стараюцца дапамагаць з уладкаваннем дзяцей на цягнікі...

— *А фінансавая дапамога?*

— Аніякая. Нават абмяняць 30 рублёў, каб дзеці мелі нейкі грош на руках, не заўсёды магчыма. Ёсць у Маскве рахунак у дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля, але, практычна, невядома, хто тым рахункам запраўляе і на што ідуць грошы з яго... Мы наогул звяртаемся за дапамогай у прадпрыемствы і просім грошы на канкрэтную справу, напрыклад, на транспарт. Мы звярталіся за дапамогай у Дзіцячы фонд імя Леніна і ў Фонд міру, хацелі закупіць дзецям цытрусы, але нам сказалі, што ў іх няма грошай на рахунку...

— *Ці людзі, якія жывуць у радыеактыўна забруджаных раёнах, а іх жа звыш двух мільёнаў, не ў змозе паўплываць на ўрад, каб атрымаць дапамогу? Тут жа справа ідзе пра іхняе жыццё, пра жыццё іхніх дзяцей, пра будучыню нацыі...*

— Бальшавіцкі рэжым зрабіў з людзей нявольнікаў, яны адвучаны змагацца за свае правы. Пачынаюць, як, напрыклад, у Нароўлі, дзе людзі баставалі, у Гомелі... У Нароўлі дамагліся прыезду ўрадавай камісіі, якая падпісала супольны пратакол з патрабаваннямі жыхароў... Але які жудасны парадокс — прадстаўнікі прафсаюзаў падпісвалі пратакол, як урадавы бок. Значыць, тыя, хто абавязаны бараніць народ, не выступаюць з народам, а выступаюць ад імя ўрада... Вы разумееце, як страшна выраджілася жыццё ў бальшавіцкай сістэме?!

— *Чаму ж тады бальшавікі свядома вядуць да гібелі свой народ, скрываючы перад ім праўду пра чарнобыльскую бяду, а калі яе ўжо немагчыма скрываць, дык ствараюць усемагчымыя перашкоды тым, хто хоча дапамагчы пацярпелым?*

— Гісторыя іх навучыла, што за ніякія свае злачынствы камуністы не былі пакараны. Наадварот, ім жывецца куды лепш за растаптаны народ. Рэжым ахоўвае іх ад народнага гневу.

(Працяг на стар. 7)




20 чэрвеня аэрапорт Мінск-2 выглядаў нязвыкла. Каля выйсця з лётнага поля хваляваў натоўп моладзі, здзіўляючы староннiх назіральнікаў колькасцю забароненай сімволікі. Мінскія „Талака“ і „Чырвоны ронд“, віленская „Сябрына“, полацкі „Маладзік“ — у гэты дзень яны сабраліся, каб сустрэць сваіх землякоў з ЗША — этнаграфічны ансамбль „Васілёк“.

Старая традыцыя — прапаноўваць гасцям лепшае з усяго, што маеш. На зямлі сваіх бацькоў і дзядоў таварыства „Радзіма“ сустрэла „Васілёк“ хлебам ды соллю, а „нефармалы“ — кветкамі і песняй. „Пагоня“ Багдановіча зноў аб'ядnала беларусаў з усіх куткоў свету.

22 чэрвеня адбыўся першы канцэрт у Мінску. Памятаю, як трохі разгубіўся адзін з музыкаў, калі хлопцы з „Талакі“, якіх ён бачыў першы раз у жыцці, запыталі: ці вынясуць артысты на сцэну беларускі сцяг? Калі бел-чырвона-белы штандар ды беларуская гаворка з'яўляюцца ў БССР хутчэй дэманстраваннем палітычных поглядаў, дык ці варта рабіць з канцэрта мітынг?

А канцэрт быў цудоўны. Разам з „Васільком“ у ім браў удзел дзяржаўны харэаграфічны ансамбль „Жывіца“. Але нікто не падзяляў выканаўцаў на аматараў і прафесіяналаў — гэта былі майстры. На сцэне сустрэліся беларусы, сэнсам жыцця якіх зрабілася захаванне нацыянальнай культуры. Абыя-



# У ЭФІРЫ ГУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

*Тыдняў некалькі таму ў Беластоку, на фестывалі беларускай песні, пабывалі журналісты радыёстанцыі „Беларуская маладзёжная“ ў Мінску Таццяна Сапач і Віталь Сямашка. Мы папрасілі іх расказаць пра іхнюю працу.*

**Таццяна:** „Беларуская маладзёжная““ выходзіць у эфір кожны дзень, у 22 гадзіны 5 хвілін (па вашаму часу — 21.05) на доўгіх хвалях. Адна перадача нашай радыёстанцыі выходзіць па суботах а дзевятай (у Беластоку — а 8.00), называецца яна „Радыёкантакт“. Што да маёй перадачы, якая называецца „Альбаросіка“, то выходзіць яна ў кожную другую і чацвёртую сераду месяца. Асноўная тэма перадачы — беларуская гісторыя і культура. Пасля перадачы пра „Песнк пра зубра“ М. Гусоўскага ў рэдакцыю прыйшло шмат лістоў. Выявілася, што ёсць вялікая патрэба ў перадачах, якія асвятлялі б пытанні беларускай гісторыі, культуры. Але, так бы мовіць, на новай глебе, без навязлівага асветніцтва... Я тады нідзе не працавала. Мне сказалі: паспрабуй, зрабі што-небудзь. Першую перадачу мы зрабілі з Віталем, але Віталь — чалавек страшэнна непаседлівы, ён заняўся іншымі перадачамі, а з „Альбаросікай“ засталася я сама... Запрашаем да мікрафона навукоўцаў... Першым запрошаным госцем перадачы быў Мікола Ермаловіч, досыць часта выступае ў ёй Уладзімір Арлоў... Першая перадача доўга не магла выйсці ў эфір, бо, як кажуць, час тады яшчэ не наспеў... Якія тэмы? Абэцэдарскі — адыёзная постаць у гістарычнай навуцы... сталінскія рэпрэсіі... у нас выступаў Янка Скрыган, які расказаў пра сваё прабыванне ў сталінскіх лагерах... Па сутнасці, шмат якія тэмы закраналіся ў перадачы ўпершыню... У нашай праграме ёсць рубрыка „Слова для шчырага голасу“, дзе мы слова даем аўтарам песень. Тут гучаць не толькі аўтарская (я маю на ўвазе — бардаўская) песня, але і „Уліс“ і „Мроя“. Вось гэтыя гурты, дарэчы, у нас гучаць найчасцей...

**Віталь:** Таццяна ўзяла на сябе вельмі важную ролю, чыста духоўную. Бо як маладое пакаленне ўспрымае ўсё беларускае? Маладое пакаленне ўспрымае гэта, можна сказаць, як нешта „лапцёжнае“. Так яму падавалі гэтую праблематыку дагэтуль. У нас на радыё існуе цэлая літаратурная рэдакцыя, рэдакцыя прапаганды і гэтак далей... Але ж людзі, якія там працуюць, выконваюць сваю працу на ўзроўні „лапцёў“. Моладзь прагне пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню, духоўнасці, а такога яна ў беларускай праблематыцы дагэтуль не знаходзіла... І вось перадача Таццяны — такая інтэлектуальная альтэрнатыва закасцянелай, артадаксальнай літаратурнай рэдакцыі...

**Таццяна:** Дарэчы, толькі ў маёй праграме гучаць маладыя аўтары. У мяне ёсць рубрыка „Свабоднае чытанне“, у якой выступаюць маладыя аўтары, якія, пакуль што, не маюць шырэйшага доступу да друку, не дапускаюцца ў эфір...

**Віталь:** Я ўжо тры гады з'яўляюся



кавых не было і ў зале. І таму, калі загучала развітальная полька, не стала ні гледачоў, ні выканаўцаў: танцавалі на сцэне, у праходах, людзі стаялі, узяўшыся за рукі. „Люблю мой край“ — апошнюю песню канцэрта спявала ўся зала. У такт словам над сцэнай, над залай калыхаліся дзесяткі рук з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Дзякуй, „Васілёк“. Дзякуй за песні, якія вы захавалі. Дзякуй за песні, якія аб'ядналі нас.

Тэкст і фота **Уладзіміра Панады**



## МІНСКІЯ РОЗДУМЫ

Я не магу прамаўчаць шчасця, якое мяне сустрэла вясной 1990 года. Я, 64-гадовы беларус, упершыню апынуўся ў Мінску, дзе быў у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў з Польшчы на святкаванні славянскага пісьменства і культуры ў БССР.

Вялікім гонарам для мяне былі сустрэчы з літаратарамі: Нілам Гілевічам, Максімам Танкам, Васілём Зуёнкам і многімі іншымі. Апрача таго, пабываў я ў Вязынцы, дзе нарадзіўся Янка Купала, і ў Хатыні, дзе параўнаўча нядаўна бушавала смерць.

Дарэчы, у сувязі з выездам у Хатынь перажыў я прыкрасць. Калі апякунка групы заявіла, што, калі хто хоча пабачыць Хатынь (я ўжо напярэдадні аб гэтым прасіў), няхай сядае вось у гэты аўтобус (і паказала рукой), то адзін „вялікі“ беларус з Літвы адказаў: „Калі б вы прапанавалі Катынь, то паехаў бы, а ў Хатынь не хачу“. Апякунка Юлія Аляксандраўна змаўчала, хаця не ведаю, што падумала, але я не стрываў і сказаў: „Злачынства — гэта заўсёды злачынства, але вы падтрымоўваеце гітлераўскае!“

Паехаў я з балгарскай дэлегацыяй, але ў мяне і да сёння не выходзіць з галавы той чалавек, які ў час пабыўкі ў Мінску ўсіх, нават японцаў, прымушаў гаварыць на беларускай мове, а вось трагедыю беларускага народа зневажае. Такія людзі нічога добрага нам не прынясуць: як рэдка хто любіць злачынствы, так рэдка каму з парадачных людзей падабаецца нахабны шавінізм. Гэта відаць было па тым, як на яго іншыя глядзелі, адыходзілі ад яго і не хацелі з ім гутарыць. Ну, але гэта прыкры інцыдэнт, аб якім, можа, і не варта пісаць. Але што ж ты зробіш, калі ўсюды знойдзецца лыжка дзёгцю.

Важна тое, што Беларусь супольна з іншымі народамі свету вельмі ўрачыста і дастойна адзначыла свята славянскага пісьменства і культуры. Было гэта свята, якое яднае грамадства і, як сказаў Міхаіл Дзямчук, міністр адукацыі БССР, „скіроўвае на адраджэнне нашай маралі, інтэлігентнасці, культуры...“

**Васіль Петручук**

# ДЗЕЦІ Чарнобыля

(Працяг са стар. 6)

Яны ўпэўнены, што і за гэтае злачынства ніхто іх не пакарае. Па-другое, тыя людзі, якія займаюць кіраўнічыя пасады ў таталітарнай сістэме, добра разумеюць, што перасяленне людзей з забруджаных раёнаў азначае для іх страту сваіх пасадаў у тых раёнах... Яны проста не будуць патрэбнымі. Таму стараюцца, каб перасяленні адбываліся ў межах адной вобласці, з раёна ў раён, каб заўсёды заставаўся непарушным патрэбны ім фонд кіраўнічых пасадаў. Дзеля гэтага вядзецца спецыяльная эканамічная палітыка: „грабавы“ засілак для сем'яў, двайная зарплата на прадпрыемствах у раёнах, у якіх немагчыма жыць...

— *Але ж і самі яны вымушаны жыць у тых раёнах!?*

— Справа ў тым, што кіраўнікі і іхнія сем'і спецыяльнымі каналамі атрымоўваюць чыстую ежу, спецыяльныя медыкаменты, урэшце, праз 2 гады іх пераводзяць у больш чыстыя раёны або ў Мінск, нярэдка вешаюць на іх медалі і даюць дзяржаўныя ўзнагароды за ліквідацыю наступстваў Чарнобыля.

— *Але ж існуе і ўрадавая праграма ліквідацыі наступстваў Чарнобыля?*

— Тое, што зроблена паводле яе, такое ж злачыннае па сваім характары, як і замоўчванне праўды пра Чарнобыль. Былі пабудаваны кватэры ў Нароўлі, у двухпавярховых дамах... А там сярэдняя забруджанасць — 21 кюры/км$^2$. Каля аднае вёскі, якую неабходна трэба адсяліць, пабудаваны жывёлагадоўчы комплекс за некалькі мільёнаў рублёў... У Хойніках за апошні год, нягледзячы на тое, што ўвесь час людзі выязджаюць, колькасць жыхароў павялічылася з 17 да 18 тысяч. Тут спрацоўвае той злачынны эканамічны стымул — павялічаная зарплата... У Хойніцкім раёне, у пустуючых вёсках пасялілі людзей з Мурманскай ці Архангельскай вобласцяў... Тое ж самае — двайная зарплата... Урэшце, урадавая канцэпцыя перасялення — гэта канцэпцыя знішчэння культурнага вобліку нацыі, яе нацыянальнай самабытнасці... Людзей распыльваюць па ўсёй рэспубліцы, разбіваюць сацыяльныя і этнаграфічныя супольнасці... Тут і яшчэ адзін разлік — распыліць статыстыку (тую багіню бальшавікоў) пацярпелых па ўсёй рэспубліцы, схаваць за статыстычнымі лікамі злачынства...

— *Ці ж усё можна прыкрыць статыстыкай?*

— Вядома, не ўсё, але шмат што. Тым афіцыйным дадзеным, якія публікуюцца ў афіцыйнай прэсе, нельга верыць. Яны праходзяць праз фільтр Масквы. А Масква фільтруе „гласность“ і пускае толькі тое, што людзі, паводле яе, павінны ведаць...

Гутарыў **Ян Максімюк**

вядучым беларускага „Хіт-парада“, праз які беларускія рок-музыканты выходзяць на шырэйшую аўдыторыю. Перадача называецца „Фан-клуб“. Выходзіць яна па серадах, чаргуючыся з перадачамі Таццяны... Што такое беларуская маладзёжная музыка гады тры назад? „Песняры“, „Сябры“, „Верасы“ — і гэта, практычна, усё... Калі я зрабіў першы „Хіт-парад“, нашкрабаўшы шэсць песень, у рэдакцыю прыйшло дзве з паловай тысячы лістоў. У рэдакцыі, так сказаць, усе знепрытомнелі... Такога не бывала... А чаму так адбывалася? Бо музычная рэдакцыя ў нас — гэта нешта нашкталт мафіі, якая круціла ўвесь час акрэсленых і тых самых кампазітараў... Лучанок, Захлеўны, Буднік і... ўсё. Самае жудаснае было для мяне, калі я адкрыў, што ў музычных запісах беларускага радыё захавалася ад „Песняроў“: за 20 гадоў працы калектыву ў нас ёсць усяго 15 кампазіцый... Гэта гаворыць пра ўсё... Дык вось, пасля першых перадач з „Хіт-парадам“ у нас пайшлі плёнкі з запісамі. Мы сталі запрашаць хлопцаў, рабілі запісы, саматужныя, так сказаць, але ўсё ж такі... Музыка пачала выходзіць у эфір. Па выніках „Хіт-парада“, такіх двух міні-фіналаў у годзе, лепшыя кампазіцыі трапляюць на агульную пласцінку. Гэтай восенню ўпершыню выходзяць дзве пласцінкі з запісамі лепшых песень „Хіт-парада“... Потым яшчэ выходзіць сольны альбом шматразовага пераможца „Хіт-парада“ — рок-гурту „Мроя“, выходзіць сольны альбом „Уліса“, „Мелодыя“ выпускае яшчэ альбом Данчыка і Барткевіча „Мы адной табе належым“... Упершыню за дзесяцігоддзі беларуская поп-музыка выйдзе на пласцінках... Падсумоўваючы, пасля першага года мы атрымалі 16 тысяч лістоў і адкрылі недзе два з паловай дзесяткі выканаўцаў, якія не гучалі б ніколі, калі б не было гэтай перадачы...

Фактычна, у беларускай рок- і поп-музыцы ўзніклі два напрамкі: раздзел прайшоў па адносінах да класічнай спадчыны рока. Рускамоўныя гурты спрабуюць дапасаваць да сваіх магчымасцяў тое, што дасягнуў заходні рок... Значнейшых поспехаў яны не маюць і не даб'юцца, бо, па-першае, гэта другасная справа, па-другое, значна лепш робяць гэта за іх маскоўскія гурты... Другая плынь, якую складаюць беларускамоўныя гурты, выходзіць ад пошукаў у плане нацыянальнай самабытнасці, шукаюць сваёй нацыянальнай музычнай інтанацыі. Зараз, можна сказаць, гэтая плынь перамагла, зманапалізавала беларускую рок-музыку. Акрамя „Уліса“ і „Мроі“ з Мінска ці віцебскай „Грамады“, гуртоў вядомых тут на Беласточчыне, я назваў бы яшчэ з цікавейшых беларускамоўных гуртоў полацкія „Мясцовы час“ і „Кадэцкі корпус“ ды „Тутэйшых хлопцаў“ з Мінска... Публіка, можна сказаць, даспела да ўспрымання беларускага рока, затрымка з канцэртамі на Беларусі чыста тэхнічнага характару — няма адпаведнай гукаўзмацняльнай апаратуры...

— *Як у вас з цэнзураваннем радыёперадач, што ідуць у эфір?*

**Віталь:** Шмат што змянілася на лепшае. Я для прыкладу скажу пра перадачу „Шанц“, якая выходзіць у эфір штодня і аператыўна рэагуе на бягучыя падзеі. Дык вось, перадача пішацца раніцою, слухаюць яе апоўдні, а вечарам яна ідзе ў эфір. Па-першае, нашым апаратчыкам на радыё няма часу для цэнзурных маніпуляцый... Па-другое, яны ўжо самі не ведаюць, што можна пускаць, а што не, і на якой падставе знімаць перадачу. Яны раз паспрабавалі зняць беспадстаўна, пайшоў пратэст ад групы народных дэпутатаў, аб гэтым напісалі ў „ЛіМе“... Гэтыя функцыянеры адчулі ўжо сілу, якая супрацьстаіць неабмежаванай да нядаўняга часу бюракратычнай самаволі... Па-сутнасці, перадачы ідуць без цэнзурнага ўмяшання, вырашае аб гэтым пазіцыя самога журналіста.

**Таццяна:** У мяне з цэнзурай клопатаў няма, хоць раней былі. Я паставіла на іронію. Напісанае застаецца напісаным, але прачытаць яго можна па-рознаму. Гэтым і ратуюся. Аўдыторыя ў мяне, як адчуваю, такая, што ўспрымае пачутае якраз на той хвалі, на якой трэба.

**Запісаў Ян Максімюк**

# Прыход у Боцьках

(Працяг са стар. 1)

ем: „Року 1601-го месяца декабря 4 дня уписан есть род сей — „Род Павла Ботькович з 'Ботьков“. У 1654—1655 гадах архімандрытам Супрасльскага манастыра быў Сілуан Кунцэвіч „из д. Ботьков“.

Ад пачатку XVI стагоддзя Боцькі звязаны з магнацкім родам Сапегаў. Выводзіліся яны са Смаленшчыны. У час ваенных дзеянняў станавіліся яны на бок тагачаснай Літвы і, калі страцілі свае маёмасці на ўсходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага, атрымалі ад польскіх каралёў Іказь над Дзвіной, Лейпуны каля Нёмана і Боцькі на Падляшшы.

Родапачынальнікам заслужанай у гісторыі Вялікага княства Літоўскага сям'і Сапегаў быў Сямён Сапега — пісар Казіміра Ягелончыка. Былі ў яго чатыры сыны і дзве дочкі. Яго жонка Анастасія, аўдавеўшы, стала ігуменняй манастыра ў Полацку. Род Сапегаў падзяляўся на дзве лініі: кодзеньскую і чарэйскую (ад назваў мястэчак Кодзень і Чарэя).

У 1508 г. Іван (Івашка) Сапега сын Сямёна атрымаў на Падляшшы маёнткі Лісова, Наройты (Наройкі), Ерыкі, Кнарыды, Бярэзніцу і спадчынную маёмасць Боцькі ў Бельскім павеце. Сярод наданняў 1509—1510 гадоў знаходзіцца прывілей Зігізмунда I на заснаванне горада на магдэбурскім праве, а ў 1512 г. пацвярджаецца Івану Сапегу маёнтак Боцькі ў Мельніцкім павеце. Тады быў заменены маёнтак Івана Сапегі Бярэзніца ў Бельскім павеце на вёску Боцькі, якая была ўласнасцю Мантовічаў і іх братанка Івашкі Глябовіча.

На падставе гэтага можна меркаваць, што на другім баку ракі Нурэц, насупраць горада Боцькі, паміж Нурцом і яе прытокам Нурчыкам і сённяшнімі вёскамі Андрыянкі і Якубоўскія знаходзілася вёска Боцькі. Левы бераг Нурца і Нурчыка ў пачатках XVI ст. належаў да Мельніцкага павета. У пазнейшых крыніцах няма (у адносінах да Боцькаў) падзелу на два паветы, наадварот, усе дакументы залічваюць іх да Бельскага павета.

У 1516 годзе падляшскі ваявода Іван Сапега памёр у Дубне каля Боцькаў і там быў пахаваны. Пасля сямейных спрэчак і чарговых наследніках каралеўскі суд вырашыў 1 студзеня 1533 г. маёнткі Боцькі, Дубна і Кнарыды перадаць Паўлу Сапегу.

У „Супрасльскім памянніку“ запісана, што „Павел Сапега, ваявода падляшскі, пан на Кодзені, Боцьках і т.д., жонцы сваёй Аляксандры з Хадкевічаў выкупіў ад збаражскага князя належную ёй частку маёнтка Боцькі“. Купля адбылася ў 1557 годзе.

У 1571 г. у Боцьках пры рынку і на васьмі вуліцах было 235 дамоў, 262 агароды, 98 гарадскіх і 2 папоўскія валокі.

У дакументах з 1577 г. у складзе Боцькаўскай воласці знаходзілася мястэчка Боцькі і вёскі боцькаўскага, кнарыдскага і дубінскага маёнткаў. У гэтых вёсках (Старое Сяло, Кнарыды, Мокрае, Рамашкі, Краснае, Дыдулі, Дубна, Нурэц, Малочкі, Косная, Пятрова, Шчыты) пражывала баярскае насельніцтва. Праваслаўнай царкве прыналежаў дом у мястэчку і 2 свабодныя валокі.



*Царква Успення Прасвятой Багародзіцы ў Боцьках (даваенны выгляд).*

У 1576 г. маёнтак Боцькі дастаецца Багдану Сапегу з кодзеньскай лініі, які ў 1580 г. быў назначаны брэсцкім, а потым смаленскім кашталянам. Будучы кашталянам, Сапега звяртаецца да караля Стэфана Баторыя з просьбай не прымушаць народу ўсходняга веравызнання прыняць новы каляндар. У распараджэнні на выпадак сваёй смерці пакідае ў Боцьках у 1587 г. каштоўнасці „на неабходныя нябожчыцкія патрэбы“. Багдан Сапега ў 1588 г. быў назначаны ваяводам мінскім. У 1591 г. ён уступае ў Львоўскае брацтва, аб чым пісьмом ад 6 лютага інфармаваў патрыярху ў Канстанцінопалі. Памёр ён у 1593 г., не мяняючы ўсходняга веравызнання. Пахаваны быў побач са сваім бацькам у царкве св. Тройцы ў Вільні.

Боцькі пераходзяць ва ўладанне чарговага наследніка з роду Сапегаў. Тады ў склад боцькаўскага маёнтка ўваходзілі фальваркі: Кнарыды, Старое Сяло, Мокрае, Рамашкі, Краснае і Андрыянкі з вёскамі Агароднікі і Жалоцькі.

Някепскае было аснашчэнне царквы. Сярод кніг для набажэнства яшчэ ў 1627 г. можна было сустрэць „Трыёдзь“ з 1491 г., надрукаваную ў Кракаве Швайпольтам Фіёлем.

Маёмасць Боцькі і Трасцяніца ў Брэсцкім павеце апынуліся ва ўладанні Юзэфа Францішка Сапегі (чарэйская лінія), які перадаў іх пад нагляд Ежы Матушэвічу. Той, нягледзячы на тое, што ўладальнік змагаўся на вайне са шведамі, сам патрапіў абараніць маёнтак ад непрыяцеляў. У „Дарыушы“ Храпавецкага з 1660 г. чытаем: „у Боцьках... дзе касцёл і мястэчка дашчэнту спалілі маскалі з Хаванскім, бязбожным тыранам, бо і целам у скляпах спакойна ляжаць не далі“. Паводле легенды, жыхары Боцькаў не змаглі заплаціць шведам кантрыбуцыю грашыма і выплацілі яе рымарскімі вырабамі, якімі мястэчка славілася ў ваколіцы. Найбольш вядомым вырабам быў „манітор боцькаўскі“ — раменны бізун, які калісьці паўсюдна прымяняўся ў выхоўванні школьнай моладзі. У мястэчку развівалася рамяство, папулярныя былі кірмашы. Ва ўсхпомненым „Дарыушы“ Храпавецкага было запісана: „Дня 25.08.1661 года, чацвер — Прачыстай рускай. Кірмаш у Боцьках“. Можна меркаваць, што гаворка тут пра Успенне Божай Маці, якое па старому стылю святкуецца 15 жніўня, а тады календары розніліся між сабой на 10 дзён.

Юзэф Сапега заснаваў у Боцьках касцёл і кляштар рэфарматаў, збудаваныя ў 1730—1739 гадах. Паводле іншых крыніц, першы парафіяльны касцёл быў заснаваны Янам Сапегам у 1513 г., а касцёл рэфарматаў быў заснаваны ў 1720 г. на новым месцы.

Многа вестак пра стан царквы ў Боцьках знаходзім у генеральнай візітацыі (інспекцыі) царквы, праведзенай 27 студзеня 1727 г. З гэтага дакумента можна даведацца, што царква была драўляная, званіца (з дзіравым дахам без крыжа) стаяла побач. Унутранае аснашчэнне царквы было дастатковае. Увагу прыцягваюць літургічныя кнігі: „евангелле пісанае, у сярэбраным пераплёце, віленскі служэбнік друкаваны, апостал пісаны, актоіх пісаны, дзве трыёдзі пісаныя, псалтыр друкаваны, трэбнік друкаваны, замойскія казусы друкаваныя, служэбнік другі пісаны, ірмалагій друкаваны, псалтыр другі друкаваны... Метрык кнігі тры. Усе кнігі ў час генеральнай інспекцыі падпісаны“. У дакуменце пералічаны мясцовасці, прыналежныя да прыхода: мястэчка Боцькі і вёскі Старое Сяло, Кнарыды, Мокрае, Краснае, Шышоты (Шашылы), Дубна і Нурчык. Знаходзім у ім таксама дапісак, што пасля інспекцыі царква была абкрадзена. На заканчэнне генеральнай візітацыі (інспекцыі) боцькаўскаму прэзбітару (настаяцелю, а ў час візітацыі быў ім назначаны Ян Адэльскі) было загадана старацца вярнуць забраныя царкве грунты і пляц, а таксама рэкамендавалася стварыць пры царкве школку з адпаведным настаўнікам.

Як гэты загад быў настаяцелем выкананы, цяжка сказаць. У гэты час (г.зн. у перыяд Брэсцкай уніі) магчымасці гэтага былі невялікія. Аб усім вырашалі ўладальнікі маёнткаў, і духоўнікі ўсходняга абраду былі ва ўсім ад іх залежныя. Прайшло многа гадоў, і фундатары (уладальнікі) сталі больш прыхільнымі да боцькаўскай царквы. Захаваўся дакумент жонкі Юзэфа Сапегі, Крыстыны з Браніцкіх, з датай 4 сакавіка 1760 года, у якім на просьбу а. Андрэя Адэльскага былі вернуты адабраныя царкве землі і пляцы.

*(Заканчэнне будзе)*

**Р.С.**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

#### 10. Прыслоўе [1]

Прыслоўе — гэта нязменная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, стану або якасці.

У сувязі з тым, што прыслоўі з'яўляюцца нязменнымі словамі, яны не маюць канчаткаў, а толькі суфіксы, пры дапамозе якіх утварыліся ад іншых (зменных) часцін мовы. Прыслоўныя суфіксы супадаюць з канчаткамі прыметнікаў і назоўнікаў: **-а (добра, радасна, шчыра), -аму (-яму) (па-стараму, па-асенняму, па-летняму), -у (дашчэнту, спачатку, узімку), -ы (двойчы, уночы).**

Большасць прыслоўяў утварылася ад назоўнікаў (ад ускосных склонаў назоўнікаў з прыназоўнікамі) і ад прыметнікаў. Невялікая колькасць прыслоўяў утворана ад лічэбнікаў, займеннікаў, дзеяслоўных форм і прыслоўяў. [2]

У сказе прыслоўі найчасцей выконваюць сінтаксічную функцыю акалічнасцей: **часу** — А цягнікі бягуць **зімой і летам, увосень і ўвясну** (Лыньк.), **месца — Злева і справа** — высокія ўзгоркі, на якіх некалі цямнелі шумныя векавыя бары. (Бач.), **спосабу дзеяння** — Маланка б'е і **ўпоперак і ўздоўж.** (Гр.), **меры і ступені** — А ветрык лёгенькі паўднёвы **зусім** прыціхне ўскрай палёў. (К-с), **прычыны** — Дзесьці ў гушчары **спрасонку** пракрычала птушка (Лыньк.), **мэты** — Башлыкоў **знарок** гаварыў стрымана. (І.М.). Калі прыслоўе адносіцца да назоўніка, то яно выконвае ролю **недапасаванага азначэння:** Ад святла **знадворку** ў пакоі было шаравата. (І.М.) Прыслоўе можа быць **выказнікам:** Так **блізка** роднае сяло, і яно так **далёка.** (К-с).

Паводле значэння прыслоўі падзяляюцца на наступныя разрады: якасныя, спосабу дзеяння, меры і ступені, месца, часу, прычыны, мэты.

**1. Якасныя прыслоўі** (як?): асцярожна, балюча, важна, весела, глуха, горача, звонка, коратка, прыгожа, прыемна, радасна, святочна, смела, спрытна, старанна, урачыста, цвёрда, ціха, шчыра і г.д.

Якасныя прыслоўі, таксама як і якасныя прыметнікі, маюць формы ступеней параўнання і формы са значэннем ацэнкі і меры якасці.

Простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца пры дапамозе суфікса **-ей (-эй, -ай): весялей, вышэй (вышай).**

Ёсць і суплетыўныя формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў: **добра — лепш (лепей), дрэнна — горш (горай), мала — менш (меней), многа — больш (болей).** „Формы з суфіксам **ш** больш пашыраныя ў сучаснай беларускай мове, чым формы на **-ей, -ай**“. [3]

Простая форма найвышэйшай ступені ўтвараецца ад простай формы вышэйшай ступені пры дапамозе прэфікса **най-: найвесялей, найвышэй, найлепш, найгорш..**

Складаная форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да прыслоўяў слоў **(больш (болей), менш (меней): больш (болей) старанна, менш (меней) рашуча.**

Складаная форма найвышэйшай ступені ўтвараецца шляхам далучэння да прыслоўяў слоў **найбольш, найменш: найбольш ярка, найменш выразна**, або слоў **за ўсіх, за ўсё: лепш за ўсіх, мацней за ўсё.**

У гутарковай мове значэнне найвышэйшай ступені параўнання мае спалучэнне формы вышэйшай ступені некаторых прыслоўяў са словам **сама: сама больш, сама менш, сама пазней**“. [4]

Не ад усіх якасных прыслоўяў утвараюцца простыя формы ступеней параўнання, затое можна ўтварыць складаныя: **больш паспяхова, найбольш балюча, найбольш рашуча.**

„Да форм вышэйшай і найвышэйшай ступені параўнання часам даюцца часціны, якія ўзмацняюць іх значэнне ці надаюць адценне самай высокай ступені якасці. Да формы вышэйшай ступені могуць далучыцца часціны **ўсё, яшчэ, куды: усё мацней, яшчэ больш старанна, куды вышэй,** да формы найвышэйшай ступені — **як, чым, што: як найлепш, чым найхутчэй, што наймацней**“. [5]

---

[1] Літаратура: А.І. Саладуха, Прыслоўе, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 188—204.

Беларуская мова, ч. 1 пад рэд. А.М. Клачко, Мінск 1982, с. 281—288.

[2] Спосабы словаўтварэння, у: Гутаркі аб мове, „Ніва“

[3] А.І. Саладуха, ... с. 192.

[4] Там жа.

[5] Там жа.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алесь Пальчэўскі

## ВЫБІТАЯ ШЫБА

Усё здарылася раптоўна. Дзынкнула шыба, і мяч уляцеў у хату.

Ціма і Вася кінуліся наўцёкі. Але куды схаваешся? Усе ж бачылі. Суседка Алена нават раіла адысціся далей ад акон.

Хлапчукі адбеглі на суседні двор, прытаіліся між кустоў агрэсту і, напалоханыя, пазіралі, што тварылася каля іх дома.

Цётка Клава стаяла пасярод двара з мячом і распытвала ў суседзяў, куды маглі падзецца свавольнікі. Хутка Ціма і Вася ўбачылі, як з хаты выйшла маці, чулі, як суседка казала:

— Вазьміце, Настачка, мяч і паглядзіце, што натварылі вашы футбалісты, — паказала яна на выбітую шыбу.

Маці ўзяла мяч, пакруціла ў руках і адказала:

— Прыйдзе з работы бацька, няхай сам разбіраецца з імі.

Вася глянуў Ціму ў твар і шапнуў:

— А што ты скажаш тату?

— Тое, што і ты. Разам гулялі, разам будзем і адказваць.

Цяпер, калі здарылася няшчасце, Ціма каяўся, што не паслухаў суседчынай парады. Ён ведаў, бацька не даруе такую правінку. Напэўна, не возьме сёння ў кіно.

Хутка жанчыны разышліся з двара, і Ціма з Васем ціхенька вярнуліся дахаты. Маці накры-

(Працяг на стар. 10)



*Агнешка Камінская з Кляшчэляў — шматгадовая лаўрэатка школьных конкурсаў беларускай песні. Фота Я. Чэрнякевіч.*

Уладзімір Юрэвіч

## Таня будзе жыць

Паблізу агарода Лукашковых бацькоў рака была неглыбокая і спакойная. Тут зрабілі кладачку, каб набіраць ваду паліваць грады.

Не толькі Лукашку, але і меншай за яго сястрычцы Тані дазвалялі гуляць каля вады. Лукашок, якому пайшоў ужо адзінаццаты, мог нават і купацца, але далёка ад кладкі не заплываў.

Чатырохгадовая Таня гуляла звычайна воддаль ад берага, на пясчаным лабку.

Сёння выдаўся сонечны, нават гарачы дзень. Таня гуляла на лужку каля ракі, мама сядзела тут жа на дзяружцы, нешта вязала з рознакаляровых нітак. Побач ляжаў Лукашок, чытаў, відаць, цікавую кніжку, бо не адразу адгукнуўся, калі мама звярнулася да яго:

— Ты, сынок, прыглядзь за Танечкай, чуеш... Не пускай яе на кладку, хай гуляе ў пяску, каля цябе...

— Га, што, мама? — перапытаў, як прачнуўшыся, хлопчык.

— Глядзі, кажу, Таню, — паўтарыла мама. — Не пускай яе адну да вады. А я адлучуся дамоў. Там дзядуля ўжо, мабыць, схадзіў па сырадой. Прынясу вам, трохі падсілкуецеся.

— Добра, добра, мамачка, — сказаў Лукашок, а сам зноў уткнуўся ў кніжку.

Мама хутка знікла за кустамі. Таня памкнулася бегчы на кладку, але брат запыніў яе.

— Гуляй тут, — як дарослы, загадаў. — Бачыш, які чысценькі пясочак. Насыпай яго ў вядзерца. А пасля...

Лукашок не дагаварыў, узяў Таніну скакалку, прывязаў яе за вядзерца, насыпаў у яго пяску і, адыйшоўшы, пачаў круціць тое вядзерца вакол сябе.

— Во, бачыш, — хваліўся Лукашок, — пясок не рассыпаецца...

І хлопчык пачаў вучыць сястрычку круціць вакол сябе на вяровачцы вядзерца з пяском. У той нічога не выходзіла, пясок высыпаўся на траву, вяровачка абкручвала дзяўчынку за ногі, і Таня падала, злавалася.

— Тады рабі лепш бабкі з пяску...

— А ён сухі, не лепіцца, — запярэчыла Таня.

— Мы яго змочым вадой, ён будзе ляпіцца.

Лукашок з Таняй апынуліся на кладцы. Хлопчык апусціў прывязанае да вяровачкі вядзерца з пяском у ваду і хуценька выцягнуў назад. Пастукаў далонькай пясок у вядзерцы, спрытна перакуліў яго на кладку і асцярожна падняў. На кладцы стаяла роўненькая, зграбная пясочная бабка.

Потым схадзілі яшчэ па пясок, і яшчэ... Неўзабаве ўздоўж кладкі выстраіліся ў два рады пясочныя бабкі. Таня ўзялася ўпрыгожваць іх лісточкамі, кветкамі, каменьчыкамі.

Лукашок вярнуўся на дзяружку і ўбачыў, як на тым месцы, дзе яны з сястрычкай бралі

(Працяг на стар. 10)

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Авяр'ян Дзеружынскі

### СУНІЧКА

Дзе бруіць
Крынічка.
Выспела сунічка.
Завітаў
Мурашок
Паспытаць
Салодкі сок.

Вусікам
Пашавяліў,
З кроплі соладзі
Папіў.

Папрыходзілі жучкі
І малыя павучкі,
Прыляцелі
Камары,
Лесавыя званары,
Ў госці
Да сунічкі,
Што каля крынічкі.

### РЭХА

Заблудзіўся ў лесе
Неяк раз Ігнатка:
— Татка, дзе ты, татка?—
Рэха кажа:
— А-а-атка!

Разгубіўся хлопчык
І гукае:
— Мама!
Рэха паўтарае:
— Ама, ама, ама!

Горка плача хлопчык
І крычыць:
— Ратуйце!
Рэха нібы дражніць:
— Туйце, туйце, туйце!

Чуе раптам хлопчык:
— Гэй, ау, Ігнатка!
І панесла рэха:
— Татка, татка, татка!

### ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧКА

Гром грукоча,
Навальніца,
Ноччу вераб'ям
Не спіцца,
Прытаілася
Ў садочку —
Вераб'іная ночка.

А маланка
Крэсліць, паліць,
Як з вядра
Дажджамі шпарыць,
З неба зноў пярун
Замочкі —
Вераб'іная ночка.

Гром грукоча,
Навальніца,
Вераб'ям старым
Не спіцца,
Іх сынкам,
Маленькім дочкам —
Вераб'іная ночка.

# Таня будзе жыць

(Працяг са стар. 9)

пясок, гаспадарацць дзве плiскi — шукаюць спажыву ў пяску. Хлопчык цiхенька сачыў за iмi i падсоўваўся ўсё блiжэй ды блiжэй.

„Можа i злавiць удасца", — падумалася яму. Надта ж прыгожыя гэтыя птушкi: зеленавата-шэрая спiнка, крылы чорныя, i грудка таксама, а нiз белы. Ножкi танюсенькiя, як спружынкi, хвосцiк доўгi. Калi бегаюць, дык кiваюць галоўкай i ў такт трасуць хвосцiкам.

Дзецi былi захоплены кожны сваiм. Таня канчала ўпрыгожваць густа панастаўляныя Лукашком бабкi. Вернецца мама, дачушка пахвалiцца сваiм заняткам.

Так i не згледзела дзяўчынка, як апынулася на самым канцы кладкi, хацела павярнуць назад, не ўтрымалася i бухнула ў ваду. Толькi i паспела з перапуду крыкнуць: „Во-о-ой!" Вада адразу захлiснула Танечку з галавой.

Лукашок чуў, як нешта боўтнулася ў ваду, падумаў, можа, рыбiна, цi жаба скокнула. Ён цiкаваў за плiскамi, забыўшыся пра мамiна даручэнне.

Але раптам яго як токам працяло. Лукашок усхапiўся. Птушкi разляцелiся. На кладцы сястрычкi не было. Глянуў направа, налева — няма нiдзе. Толькi па вадзе расплывалiся кругi. Закрычаў што было сiлы: „Ма-а-а-ма!" i кiнуўся да вады.

Воддаль ад кладкi вынырнула галава Танечкi i схавалася зноў пад вадой.

Марудзiць нельга было. У чым стаяў, скочыў у ваду, туды, дзе яшчэ расплывалiся кругi.

Пад вадой расплюшчыў на мiг вочы, убачыў сястрычку, падплыў, схапiў яе за рукi, хацеў вынырнуць, але нейкая сiла цягнула яго назад. Ён выпусцiў Танiны рукi, усплыў, хапiў паветра, зноў нырнуў, цэлячыся падплыць пад сястрычку, каб плячыма выштурхнуць яе наверх. Гэтак робяць дэльфiны, калi ратуюць у моры людзей. Лукашок шмат разоў бачыў такое па тэлевiзары.

Праз некалькi секунд хлопчык адчуў на спiне цяжар i пачаў як найхутчэй грэбцi да берага. Плысцi было цяжка, не ставала паветра.

Хлопчык сабраўся з апошнiмi сiламi. Нарэшце бераг! Адчуўшы пад нагамi дно, Лукашок падхапiў сястрычку на рукi. А да берага ўжо бегла мама. Яна выхапiла ў Лукашка Таню, вынесла яе на бераг, палажыла жыватом на дзяружку. Мацi цалавала сваю збялелую дачушку, цалавала сына, якi ўвесь калацiўся, часта-часта дыхаючы.

— Лукашок, сынок... — крыху апамятаўшыся, сказала мама. — Бяжы, калi здолееш, скажы дзядулю, хай выклiкае „хуткую"... Можа, мы яшчэ адкачаем нашу дачушку, уратуем?...

Гаварыць далей не змагла, залiлася слязамi. Танечка ляжала нi жывая нi мёртвая... Мама прыўзняла яе i моцна страсянула... З рота i носа ў дзяўчынкi пацякла вада. Мама зноў палажыла Таню на дзяружку, прытулiла да грудзей, паслухала, цi б'ецца сэрца. Потым набрала паветра i дыхнула ў роцiк сваёй дачушцы. Узяла за рукi Таню i ўзняла iх угору, развяла ў бакi, зноў звяла на жывоцiку.

Дзяўчынка раптам задрыжала, павярнула ледзь-ледзь галоўкай. „Усё добра, яна жывая..." — ледзь не крыкнула мама.

Яна ўхутала Таню дзяружкай, потым у сваю цёплую кофту, каб сагрэць.

— Дзядуля пайшоў званiць, выклiкаць „хуткую", — яшчэ бегучы, крычаў Лукашок.

— Добра, добра... — усё паўтарала мама, не ведаючы, што рабiць далей.

— Можа, усё абыдзецца... — гаварыла яна, несучы дачку дадому. — Вось прыйдзем, напоiм Танечку гарачым чаем, надзенем усё сухое... — суцяшала сябе i Лукашка. — Яна ж дыхае, дыхае, Лукашок... — i, ледзь усмiхнуўшыся, глянула на сына. — Лукашок, добра, што ты не разгубiўся, выратоўца наш маленькi...

У Лукашка як гара з плеч звалiлася. Ад гэтай мамiнай усмешкi хлопчыку стала цяплей. Сястрычка будзе жыць...

# ДЗIЦЯЧЫЯ МАЛЮНКI



*Маляваў Эрнiк Валкавыцкi, 5 гадоў.*




## БЕЛАРУСКI ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

— 2 —

### У СЛАЎНЫМ ГОРАДЗЕ ПОЛАЦКУ

**Дзень 6 сакавiка 1486 года запомнiўся ўсiм тады ў Полацку. Ды i не толькi ў Полацку.**

**Ранiшняе сонца, якое цешыла ўжо вясновым цяплом, раптам пачало засланяцца цемраю. Людзi з жахам глядзелi, як яно меншала i меншала. Цi не канец свету? Чорны цень хутка бег па зямлi. Раптам зусiм сцямнела. Набожныя пачалi малiцца. Гулка бухалi званы полацкiх сабораў. Узбуджаныя, зарыкалi каровы, забрахалi сабакi. Суцэльная цемра схавала ўсё. I людзi адчулi страшэнны холад.**

**Але праз хвiлiну сонца зноў блiснула. I ўсе ўсцешна ўздыхнулi. Зноў вярталася ранейшае жыццё са сваiмi клопатамi.**

**Мабыць, якраз у гэты час у жонкi праваслаўнага купца Лукi Скарыны нарадзiўся сын.**

**У Вялiкiм княстве Лiтоўскiм пасля сталiчнай Вiльнi Полацк быў другiм з найбольшых гарадоў.**

**Другiм? Пасля Вiльнi? Гэта вы скажыце каму другому, толькi не Францiшкаваму дзеду. Той нiкому не мог уступiць першынства Полацка.**

**— Вiльня, праўда, горад вялiкi, нiчога не скажаш, — як бы згаджаўся Мiхалка. — Але хто старэйшы? Пра Вiльню толькi, можа, дзвесце гадоў, як пачалi гаварыць, калi з яе сталiцу зрабiлi. А пра Полацк ужо шэсцьсот гадоў, — дзед паўтарыў: — шэсцьсот гадоў слава грымiць... Аб iм у скандынаўскiх сагах успамiнаюць, у „Слове аб палку Iгаравым" гаворыцца... Каб не гэтыя мечаносцы ды крыжакi — гэта ж як арда друга на нас лезе — о, каб не яны, наш горад i цяпер самым большым тут быў бы, — лаяў дзед нямецкiх рыцараў.**

**З гэтым, вядома, i Францiшак мог бы часткова згадзiцца. Полацк i сапраўды быў адзiн з самых старажытных гарадоў усходнiх славян. Калiсь ён быў цэнтрам магутнага Полацкага княства, гэта Францiшак ужо ведаў. Як памятка даўняй славы i цяпер яшчэ ўзвышаўся з адзiнаццатага стагоддзя Сафiйскi сабор — галоўны будынак горада. Полацкая Сафiя, казалi, трэцяя сястра Кiеўскай i Наўгародскай.**

**— Трэцяя? — не вельмi згаджаўся дзед. — А можа, унука, другая. Яе разам з Наўгародскай пачалi, а нават, можа, у Полацку i на год раней. Толькi кончылi крыху пазней.**

**Дзед расказваў Францiшку, што i ўзводзiў яе князь Усяслаў, каб паказаць, што Полацк ужо раўня Кiеву ды Ноўгараду. I дзед апавядаў, як некалi раней тут прымалi замежных паслоў, як абвяшчалi вайну i мiр... У гэтым саборы знаходзiлася княжацкая казна. Тут была, апавядаў дзед, вялiкая бiблiятэка, тут пiсаўся летапiс. От каб прачытаў яго — усё чыста ведаў бы, што з году ў год дзеялася ў Полацку.**

**Асаблiва дзiвосная пастацца з дзедавых апавяданняў паўставаў сам князь Усяслаў — як яго называлi ў народзе — Чарадзей. Як ён, захапiўшы неяк Ноўгарад, звёз у Полацк званы з Наўгародскай Сафii.**

**Працяг будзе**
**(Паводле кнiгi А. Клышкi „Францыск Скарына")**

## ·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·



*Знайдзi найкарацейшую дарогу ў лабiрынце льва ад лапы да пашчы.*

## ВЫБIТАЯ ШЫБА

(Працяг са стар. 9)

чала на iх i прыгразiла бацькам. Хлапчукi добра ведалi, калi вяртаецца з работы iх тата. I чым блiжэй надыходзiў гэты час, тым больш хмурнеў Цiма.

Вася першы ўбачыў бацьку на двары i пабег насустрач.

— А Цiма шыбу выбiў мячом у цёткi-Клавiным акне! — яшчэ здалёк гукнуў Вася. — Ён баiцца, што не пойдзе з намi ў кiно.

— З кiм жа ён гуляў? — спынiўся бацька.
— Са мною.
— Значыць, i ты вiнаваты?

— Не. Ад Цiмавай нагi мяч паляцеў не ў мой бок, а ў шыбу.

Цiма моўчкi стаяў каля ганка з апушчанай галавой. Глянуў бацька на яго, убачыў засмучаны твар, i шкада стала сына.

— Ну што ж, Цiмох, паробiш, бяда з кожным можа здарыцца. Ты ж не хацеў выбiць шыбу? — бацька паклаў руку сыну на плячо.

Цiма адчуў ласкавасць у голасе бацькi i пасмялеў.

— Не, тата, я асцерагаўся. Але мяч адскочыў ад нагi, а Вася не злавiў...

— Трэба было адысцiся, сынок, далей ад дома. А цяпер прыйдзецца нам з табою ўстаўляць шыбу.

Вася стаяў збоку, паглядаў то на бацьку, то на брата i чакаў, што будзе далей.

А далей было вось што. Зусiм нечакана для Васi бацька сказаў:

— У кiно не пойдзеш з намi ты, сынок.

— Чаму, тата?! — здзiвiўся хлопчык.

— Каб не радаваўся з чужой бяды, — адказаў бацька.

 Адрас рэдакцыi: 15-950 Białystok ul. Suraska 1, „Зорка".

## ПІСЬМЫ

— Ведаеце, — хваліцца бацька студэнта, — калі я чытаю пісьмы ад сына, то вымушаны хапацца за тлумачальны слоўнік...

— Таксама і я, — адзываецца сусед, — калі мне напіша мая дачка, я адразу хапаюся за ашчадную кніжачку.

## КУРС

Пасля рамонту тэлевізара механік упісвае ў квітанцыю і такую пазіцыю: „Электронны курс — 10 тысяч злотых".

— А што гэта такое? — здзіўляецца ўласнік тэлевізара.

— А гэта паўгадзіны адказаў на пытанні вашага сыночка, — адказвае механік.

## РЫЗЫКА

— Мама, можна, я дам бабулі шакаладку? — пытаецца сын.

— Ну вядома, — адказвае маці.

— А што, калі яна возьме?

# НІЎКА

## АФАРЫЗМЫ

✷

Малаверы самыя даверлівыя: вераць у цуды Веспасіяна, каб не верыць у цуды Майсея.

✷

Самае вялікае няшчасце — гэта братазабойчыя войны.

✷

Чалавек не бывае ні анёлам, ні жывёлінай; няшчасце заключаецца ў тым, што той, хто хоча быць анёлам, бывае жывёлінай.

✷

Дзве крайнасці: выключыць розум, прымаць толькі розум.

**Блез Паскаль**

## ЗУБ МУДРАСЦІ

— Алё! Ван Ванавіч? Ай, халера!... Не, гэта не вы халера... Зуб, каб яго. Баліць... З паліклінікі званю. Вырываю... На работу сёння не прыйду. Адзначце там...

Праз тыдзень.

— Іван Ванавіч, гэта я, Пісягоў. Ай, ай!... Ды зуб, каб яго. Пайду вырваць. Не, не той, другі, той ужо вырвалі.

Прайшло дзесяць дзён.

— Алё, гэта Іван Ван? У паліклініку трэба! Зуб вырваць к чортавай мацеры... Заўтра прыйду на работу...

Ячшэ праз некалькі дзён:

— Зуб баліць... У паліклініку. Ой!... Што, колькі зубоў? Трыццаць два, здаецца... Як трыццаць тры дні? Можа, зуб мудрасці? Гэта ж растуць... Як апенькі на сырой калодзе.

**Васіль Феранц**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

3331. Агнешка Сапяжынская (Гайнаўка) — 1000 зл.
3332. Марыя Сцепанюк (Гайнаўка) — 500 зл.
3333. Эва Андраюк (Гайнаўка) — 500 зл.
3334. Кацярына Грыкоўская (Новаберазова) — 500 зл.
3335. Марыя Сцепанюк (Шастакова) — 500 зл.
3336. Ялянта Семянюк (Гайнаўка) — 500 зл.
3337. Анэта Катэльчук (Гайнаўка) — 500 зл.
3338. Анна Граматовіч (Гайнаўка) — 500 зл.
3339. Варвара Гіншт (Дубіны) — 500 зл.
3340. Анна Станько — 500 зл.
3341. Агнешка Сахарчук (Гайнаўка) — 500 зл.
3342. Янна Ажахоўская (Гайнаўка) — 500 зл.
3343. Агнешка Крупа (Гайнаўка) — 1700 зл.
3344. Яніна Врублеўская (Плянта) — 500 зл.
3345. Галіна Грыгарук-Іванюк (Альхоўка) — 500 зл.
3346. Уршуля Бонда (Белавежа) — 1700 зл.
3347. Крыстына Яцко (Парыева) — 1000 зл.
3348. Люцына Філіповіч (Гайнаўка) — 500 зл.
3349. Агнешка Дзмітрук (Гайнаўка) — 200 зл.
3350. Малгажата Петрушкевіч (Гайнаўка) — 1000 зл.
3351. Анэта Лукашук (Гайнаўка) — 100 зл.
3352. Анна Койла (Гайнаўка) — 500 зл.
3353. Яраслаў Якімюк (Збуч) — 500 зл.
3354. Варвара Цімафеюк (Исток) — 1000 зл.
3355. Альжбета Клімюк (Нікіфараўшчына) — 500 зл.
3356. Міраслава Корч (Тафілаўцы) — 500 зл.
3357. Крыстына Корх (Дубічы-Царкоўныя) — 1000 зл.
3358. Эва Гуткевіч (Гайнаўка) — 500 зл.
3359. Януш Петручук (Вітава) — 500 зл.
3360. Моніка Садоўская (Пасталова) — 500 зл.
3361. Анна Мацюка (Гайнаўка) — 500 зл.
3362. Ялянта Падолец (Жукі) — 1000 зл.
3363. Аляксандр Лаўрыновіч (Гайнаўка) — 1000 зл.
3364. С. Буткевіч (Ковентры, Англія) — 20 дол. ЗША
3365. М. Баяроўскі (Бромсграў, Англія) — 25 дол. ЗША
3366. Томас Бэрд (Нью-Йорк, ЗША) — 100 дол. ЗША

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149 tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— lipiec — 6.500 zł.
— sierpień — 5.200 zł.
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 947/90 r.